ПАДПІСКА НА ГАЗЕТУ ПРЫМАЕЦЦА Ў ЛЮБЫМ ПАШТОВЫМ АДДЗЯЛЕННІ ПА КАТАЛОГУ

З любоўю да ўлоння

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

№2 (11)
Красавік 1998

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

Фота: Уладзімір Бліноў





*"Бывала, яны пазіралі на мяне тужліва і спачувальна"*


Стаць "аўтарам" прыроднага помніка не менш ганарова, чым напісаць паэму або намаляваць шэдэўр





Слова рэдактара

# Мы — дзедзічы

Пра добрае, сімвалічнае слова нам нагадала чытачка з Гродна Хрысціна Фенька. Гэтым ключыкам-слоўкам я і хачу адамкнуць, быццам дзверы ў скарбніцу, сённяшні вясновa-летні нумар. Рэч у тым, што *дзедзіч* значыць наследнік – унук або праўнук, які атрымаў у спадчыну ад свайго продка памесце, маёнтак, абшар зямлі.

Ён, дзедзіч, азначае ўладар. Аднак я асмелюся казаць, што ўсе мы, незалежна ад радавога набытку мусім пачувацца на сваёй беларускай зямлі не проста тутэйшымі жыхарамі ды насельніцтвам, а менавіта *дзедзічамі,* якія маюць спадчыну і ад-казваюць за яе. Асабліва што датычыць прыроды, зямлі, гістарычных ды культурных помнікаў. Мы проста не маем права называцца інакш як *дзедзічы*, і не маем права ўнікаць святога абавязку бараніць тую спадчыну, што засталася ад дзядоў і прадзедаў.

Як паглядзіш наўкола, колькі ўсяго пагінула на тваіх вачах, сышло ў нябыт, зраўнялася з падмуркамі, згалела – сэрца крывёй абліваецца: гэта ж аблічча святой Беларусі, нашае маці-Радзімы! Тваёй Радзімы!

Рэкі, азёры, лясы. Паркі, памесці, замкі. Горы, крыніцы, балоты. Млыны, курганы, брукаванкі. Храмы, капліцы, пагосты.

Думаеш: дзе тое адно вялікае сэрца, якое б гэта ўсё зберагло, не дало на здзек, агарнула павагай і навучыла любіць?

Беларусь зачакалася. Выдыхаеш з адчаем, са шкадаваннем стратаў: а колькі ж яе засталося, той Беларусі, якую прыціскаеш да сэрца, якую любіш?

Хто быў у велічным атачэнні ацалелых рэштак Ружанскага замка, быццам у роспачы кінутага і забытага сучаснай цывілізацыяй, напэўна, выходзіў з адчуваннем парушанага спакою. Хацелася шаптаць як малітву, прысягу, зарок:"Я, нашчадак святой Беларусі..." Не, не проста нашчадак. "Я, дзедзіч святой Беларусі..." І золак браўся ў душы.



Валерый Дранчук

**лірычная:**
кветка нашых аселішчаў, паркаў, шляхецкіх сядзіб


**набатная:**
экспансія лесапаляўнічай і лесанарыхтоўчай дзейнасці на ахоўных тэрыторыях


**міфалагічная:**
язычніцкі свет "ярыліцаў"


Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс", падпісны індэкс 63267

Заснавальнік і рэдактар
Валерый Дранчук

Для кантактаў:
220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38, 16
Тэл. (0172) 36-50-76, факс 220-23-53

The founder and Editor-in-chief
Valery Dranchuk
Contact: Ivanauskaya St. 38-16
220088 Minsk Belarus
fax (375 172) 20-23-53

**Экафундацыя-98:**



## Увагі рэдакцыі

*Перапрашаем за невялікае спазненне. Газета была падпісана ў друк 29 красавіка, пасля ўсіх экалагічных імпрэзаў, якія прыпалі на канец месяца і ў якіх рэдакцыя брала ўдзел. Мяркуем, су-стрэчы, зваротная сувязь з рознымі аўдыторыямі, палітычны фон апошняга "чарнобыльскага" тыдня ў пэўнай меры закранулі інфармацыйны бок выпуска, зрабілі яго больш актуальным і поўным.*

*Шматлікія чытачы прапануюць падвоіць перыядычнасць газеты, тлумачаць гэты тым, што выданне ім падабаецца, і чакаць два месяцы — выпрабаванне для душы. Дзякуй усім, хто з нецярплівасцю чакае газету. Рэдакцыя думае над прамежкавым выпускам, магчыма, гэта будзе дадатак, на які яшчэ трэба знайсці грошы.*

*А пакуль што чарговая падпіска — на другое паўгоддзе. Для нашай газеты, якая заваёўвае месца на інфармацыйным чытацкім рынку, гэта пытанне нумар адзін. Мы хочам быць залежнымі толькі ад падпісчыка. І сярод нашых сяброў шмат дзейных асобаў, якія сваю прыхільнасць да газеты актыўна перадаюць іншым, знаходзячы новых падпісчыкаў сярод сваякоў і знаёмых, настаўнікаў, уплывовых і паважаных людзей свайго горада ці мястэчка. Сярод іх, напрыклад, Любоў Іванаўна Сіланцева з Мінска, Вера Вітольдаўна Бруй з Баранавічаў, Святлана Кот з Брэста і іншыя, пра каго мы яшчэ не даведаліся.*

*Зычым сябрам газеты ахвоты й запалу ў прапагандзе нашага выдання і, як заўсёды, зважаем: прачытаў - перадай другому, падпісаўся — перакакай іншага.*

*Сустрэнемся ў чэрвені.*

# Прытулак чар і пекнаты



**_Цётка_**

*Мой сад*

Стаіць мой сад пад белым цветам:
Нарцыс – стыдлівых поўны крас,
Звісае бэз ў акно букетам,
Тульпанаў куст расцвёў зараз.

Цвіце ляўкой, ў пуках рабіна;
Вішнёва дрэва ў малацэ;
А там парэчка, там маліна,
А там мой граб малы расце.

Люблю мой сад, як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цвет галінку прыгібае
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Люблю мой сад ў маёвым ранку
Як тоне ён ў расістай мгле,
як ліпа шэпчацца пры ганку
І як зязюлька "ку-ку" шле...

1905-1906 гг.

**_Ролф Якабсан_**
Нарвегія*

*Пакінуты хутар*

Той, хто вытаптаў гэтыя
сцежкі, памёр, зарос калодзеж,
і ўсе будынкі наўкол
апавітыя сном, быццам патомленыя
немаўляты.
Але чырвонае сэрца шыпшыны,
пасаджанага ў лепшы час,
яшчэ б'ецца сярод крапівы,
і ён чытае вершы драздам і варонам
і ў чэрвені запальвае свае свечкі
іржы, молі, імху.

**_Янка Купала_**

*Явар і каліна*

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

Захадам модлы пакорныя
З маткай-зямлёй адпраўляюць;
Тайна у ноченьку чорную
Месяца, зор выглядаюць.

Слухаюць смехаў русалчыных,
Лопату крылляў начніцы,
Ветру павеваў ап'янчаных,
Плюскату шклістай крыніцы.

Чуецца музыка дзіўная
Ў повесцях сонных імшараў...
Цешыцца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары.

1910 г.

* Пераклады на беларускую мову Валерыя Дранчука

**_Ёзаф Айхендорф_**
1788-1857 Нямеччына

*Развітанне*

О горы, о даліны,
О шумны лес густы,
Тужлівыя ўспаміны,
Прытулак пекнаты!
Ад мітусні заклятай,
ад здрадлівай маны
Схавай мяне пад шаты,
Зялёны дах лясны.

А новы дзень пачнецца,
Заззяе, замігціць,
Птушыны хор прачнецца
І да цябе зляціць,
Ён жахі і насланні
Прагоніць пакрысе,
Душа твая прагляне
У маладой
красе!

А лес, нібы ў замове,
Мне шэпча запавет
Пра смак слязы, любові,
Пра дом, пра цэлы свет.
Я сцішыўся і слухаў,
Пра што мне лес шумеў,
Істотай, сэрцам, духам
Яго я зразумеў.

Бывай! Наканавана
Мне на чужыне жыць,
Лісточкам адарваным
Пакутліва кружыць.
Калі ў краі далёкім
Звалюся на жарству,
Прыпомню – адзінокі –
Цябе – і аджыву.

**_Фёдар Цютчаў_**
Расія*

*Навальніца*

Люблю цябе ў пачатку мая,
Навала моцы агнявой,
Калі блакітны дах ламае
Пярун, здаволены сабой.

Мацнеюць гулы веснавыя,
Вось дожджык пырснуў, пыл ляціць,
Павіслі перлы дажджавыя.
І сонца ніці залаціць.

З гары, бы жэўжык шалаўлівы,
Імчыць ручай. А ў лесе грай
Вясёлым водгуллем шумлівым
Наўколле поўніць цераз край.

Ты скажаш: Гера-дурасліўка
Карміла Зеўсава арла
І грамавержную наліўку
З нябеснай кварты разліла.

**_Міраслаў Фларыян_**
Чэхія

*У долах*

Кожны радок свой
напоўніць хачу крывёю –
кропля да кроплі.

Яшчэ я сабе пажадаў бы
ў долах залатабровых,
дзе хваля прыспешвае хвалю,
крывёю сысці апоўдні
і стаць безыменным,
як сонца ў сцяблах малачаю,
як вецер у пер'ях птахаў,
каб вы, ідучы па дарозе, нарвалі
мяне, — жменю дзікага маку.

**Максім Багдановіч**

*Узор прыгожых пекных зор*
*Гарыць у цемні небасхіла; вада балот,*
*стаўкоў, азёр Яго ў глыбі сваёй адбіла.*
*І гімн спявае жабаў хор*
*Красе, каторую з'явіла*
*Гразь луж...*

**_Валерый Дранчук_**

*Пад небам Радзімы*

Я сном зайдуся, як дзіця
Пад небасхіламяснагрудым,
У снах дубы адшалясцяць
І жалуды ўпадуць на грудзі.

Далёкіх продкаў светлы цень
Мяне кране, і ў лёгкай скрусе
Я ўбачу лепшы, новы дзень
Маёй пакутнай Беларусі.

Нішто мой сон не зварухне:
Ні гром,
Ні поле веснім гудам...
І толькі – воблака мяне
Высокім дотыкам разбудзіць.

Мяне кране шаўковы цень,
І я ад слодычы ўсміхнуся:
Які шчаслівы светлы дзень
Глядзіцца ў вочы Беларусі!

**_Юрген Бекер_**
Нямеччына*

*Прырода*

Побач з домам
свежыя зрэзы пнёў,
кучы гравію, ямы.
Новага тут нічога.
Хутка прыродзе канец,
але на гэта я забываю,
пакуль хоць адзіны кусцік
яшчэ жывы.

**_Уолт Уітмен_**
ЗША

*Першая багатка*

Простая, свежая і чыстая, вызваленая сонцам з палону зімы,
Як быццам бы ніколі не было на свеце ніякіх хітрасцяў, моды, грашовых
здзелак, палітыканства,
Са свайго нагрэтага промнямі гняздзечка ў траве, цнатлівая,
сарамлівая і залатая, як золак,
Першая багатка – кветка вясны – даверліва паказвае свой тварык.

**_Якуб Колас_**

*На лузе*

Добра ў лузе ў час палудны!
Лёгка там дыхнуць!
Хмаркі белыя марудна
За лясы плывуць.

Ветрык краскі чуць калыша,
Травы шалясцяць,
Луг зялёны жыццем дыша –
Конікі трашчаць.

Ў лозах шчэбет не сціхае,
Шум стаіць і свіст,
Ў яркім бляску спачывае
На ракіце ліст.

Спевам-гоманам і звонам
Поўніцца ўвесь луг,
І дрыжыць над ім, зялёным,
Жыватворны дух.

**_Яўгенія Пфляўмбаум_**

*Дома*

След думкі вандроўнай вядзе да
айчыны,
Пад водарным вецем чакае дамок,
Што даць наўзамен белай фарбы
каліны,
Калі яна гэтак усцешыла зрок?

Аддзячыць ёй чым? А хіба вымагае?
Лясная вясна не гандлюе дабром,
Таму і цаны твайго роднага краю
Ні выспяваць песняй, ні скласці
пяром.

**_Анатоль Сыс_**

* * *

Дарога полем – да маці.
Дарога лугам – да бацькі.
Дарога рэчкай – да любай.
Але
і полем, і лугам, і рэчкай
іду заўжды да Радзімы.

**_Назым Хікмет_**
Турцыя

*Радыеактыўны дождж*

Шчыльней зачыняйце вокны!
Не пускайце дзяцей на бульвар –
Хай сядзяць дома!

Ржавы дождж
Стукаціць па даху,
ржавы дождж ідзе на палі,
забівае да смерці...

Трэба ачысціць дажджы,
каб яны заблішчэлі ізноў серабром,
каб сышлі на палі чысцінёю нябёсаў,
каб дзеці скакалі ў святле
дажджынак,
каб стоячы на балконе
мы падстаўлялі дажджу далоні.

SUMMARY

*This collection of poetry is steeped in a spring mood from different places around the world - Germany and the States, Turkey and Norway, Russia and the Czech Republic. Obviously there is some Belarusian poetry here as well.*

 



# Стаць "аўтарам" прыроднага помніка не менш ганарова, чым напісаць паэму або намаляваць шэдэўр

*Гутарка карэспандэнта інфармацыйнага зяпёнага агенцтва "Неруш-прэс" з Марынай Кудрашовай – спецыялістам запаведнай справы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі.*

*— Можа, давайце спачатку ўявім, што я — сярэднестатыстычны жыхар беларускай правінцыі. Той лясной ды азёрнай правінцыі, дзе яшчэ не ўсё стала здабычай прамысловых кан-гламерацый, дзе, нарэшце, не ўсё ад-гарадзілі сабе таўстасумы-забудоў-шчыкі. Марына Георгіеўна, ці застаўся ў мяне апошні шанец такса-ма што-кольвек "прыхапіць" у прыроды, хоць нешта пакінуць нашчадкам — як сваш-чэнную памятку, як нейкі адметны знак маляўнічай ды эталоннай спадчыны Бацькаўшчыны? Ці ўжо, можа, досыць з нас помнікаў прыроды?*

— Магу суцешыць і абнадзеіць усіх, хто дбае пра нашу прыродную спадчыну: шанец такі застаўся. Кожны раён яшчэ мае нямала сапраўдных эталонных каштоўнасцей. Азірнуўшыся навокал, можна знайсці аб'екты, вартыя быць і называцца помнікамі прыроды. Гэта асобныя векавыя дрэвы, часцей дубы. Гэта валуны, пагоркі, крыніцы. Рэшткі даўнейшых паркаў, алеяў. Дзялянкі лесу. Ці, магчыма, гай, балотца, сажалка – прытулак рэдкіх раслін, жывёл. Ды шмат чаго іншага, што мае біялагічную і эстэтычную каштоўнасць.

*— Як я ведаю, ваша міністэрства адказвае за выяўленне і захаванне та-кіх аб'ектаў. Тут вельмі важна па-спець, не даць знішчыць што ацалела.*

— Так. Часам тое, што не паспелі ўзяць пад ахову ўчора ці пазаўчора, сёння ўжо страчана. Не так даўно ў Ма-стоўскім раёне быў падарваны самы вялікі на тэрыторыі раёна валун – тры з паловай метры ў дыяметры. Знікла з аблічча зямлі адметная памятка, якую не паспелі абвясціць помнікам.

*— І каму ён замінаў?*

— Мясцоваму калгасу. Зямлі, мо, на пядзю пабольшала, але ж і страта вя-лікая. Бо такія камяні па свеце не ва-ляюцца. Дарэчы, першыя беларускія валуны былі абвешчаны помнікамі прыроды ў 1935 годзе на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Што цікава, калі, скажам, камень-валун ляжаў на сядзібе ў чалавека, яму дзяржава плаціла грошы за ахову і догляд.

За савецкім часам дзяржава ўзялася ахоўваць прыродныя аб'екты толькі з 1963 года. Адным рашэннем было створана блізка сотні *помнікаў рэспуб-ліканскага значэння* самага рознага кшталту, апроч водных. На жаль, апош-ніх бракуе дагэтуль. Пачалі неўзабаве распрацоўвацца і *помнікі мясцовага значэння*. На гэтыя дзве катэгорыі сёння падзяляюцца ўсе прыродныя аб'екты, што ўзятыя пад ахову.

Тады ж, у 1963-м была распрацавана і галоўная нарматыўная база, якая існа-вала да нядаўняга часу. У 1994 годзе Беларусь прыняла Закон аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ек-тах, а пасля адпаведна з ім і Палажэн-не аб помніках прыроды з падрабязн-нымі звесткамі, якія датычаць утва-рэння, рэжыму захавання і адміністра-цыйнай адказнасці.

Думаю, шмат каму з чытачоў "Бела-вежскай пушчы" будзе цікава даведац-ца, на якія віды дзеляцца прыродныя помнікі.

Пачну з *батанічных*. Гэта, як я ўжо казала, дзялянкі лесу, асобныя каш-




** гэтаму ясеню шмат гадоў. Ён надае пейзажу асаблівай малявід-насці, харастава і багацця.*

*Некалькі пакаленняў людзей на ім спынялі свае пагляды, вяртаючыся дамоў, часам здалёку — з салдатаў, з вучобы, з пуцявінаў лёсу. Ён быц-цам пільнуе гэты лясны квартал, гэтую частку абшару і не збіраецца па сваёй волі мяняць месца.*

*Аднак знайшоўся чалавек, які завор-ваючы зямлю, прайшоўся плугам па каранях дрэва (на здымку гэта відаць). Ці, можа, не разумеў, што робіць, не адчуваў душою..*

*Фота: Валерый Дранчук ("Неруш-прэс"), Нясвіжскі раён, 1995 г.*

тоўныя дрэвы. Вялікую групу збіраюць паркі, найперш старадаўнія. Але ёсць і больш сучасныя.

Да *геалагічных*, апроч валуноў, нале-жаць рэдкія выхады парод, формы рэльефа: пагоркі, лагчыны, даліны рэк. Мы з вамі нярэдка бываем сведкамі, калі ў працэсе эксплуатацыі маляўні-чыя эталонныя краявіды саступаюць звычайным кар'ерам.

*— Была гара і не стала гары. Быў нізок — і яго не стала... Так?*

— Ды вось вам свежы прыклад: у На-вагрудскім раёне самая высокая кроп-ка ландшафту ўжо не існуе. Пад ахову цяпер мусім браць крыху ніжэйшую...

*— І пад гарою тым часам страты.*

SUMMARY

***There are 661 areas of outstanding natural beauty in Belarus. The authors of this dialogue believe that this number could be twice or three times higher. However, hundreds and thousands of defenders of nature's heritage would have to join in the work in order to save and preserve unique natural places.***

*Уходаюцца крыніцы, зарастаюць вытокі рэк, разбіваюцца люстэркі азёраў. Ізноў жа той самы клопат: паспець!*

— Водна-балотных аб'ектаў, якія збіра-юцца ў групу *гідралагічных* помнікаў, сёння пакуль што няшмат. Гэта ненар-мальна. Тэндэнцыю трэба мяняць. Зазначу, што сярод гэтай групы могуць быць помнікі не адно натуральнага, але і рукатворнага паходжання, як, скажам, Аўгустоўскі канал. Мае зна-чэнне, калі сажалка, азярцо або рэчка эстэтычна ўпісаліся ў наваколле ці пра іх людзі склалі легенды.

*— Нарэшце, Марына Георгіеўна, як выглядае працэдура надання ахоў-нага статусу? Ці не зашмат тут бюракратычнай маруды?*

— У адрозненне ад заказніка, дзе падрыхтоўка матэрыялаў займае лад-ны адрэзак часу, з помнікамі прыроды намнога прасцей. Працэдура ў сярэд-нім займае не больш двух месяцаў, рашэнне прымаецца альбо на калегіі міністэрства, альбо на месцы – выкан-камам раёна.

Заяўку можа падаваць як арганіза-цыя, скажам, школа, лясніцтва, лясгас, так і любы жыхар, які здольны абгрун-таваць сваю прапанову. Нядаўна з іні-цыятывай надаць статус помнікаў пры-роды мясцовым аб'ектам звярнуўся да нас настаўнік з Лельчыцкага раёна. Ягоныя прапановы разгледжаны і ўжо прынятыя да выканання.

Далей, калі рашэнне ёсць, на ахоўны аб'ект складаецца пашпарт, дзе до-сыць падрабязна выкладзены рэжым ягонай аховы. Тут жа пазначаны заба-роны на тую ці іншую гаспадарчую дзейнасць: пракладку дарог, будаўніцт-ва, разворванне глебы, меліярацыю і шраг іншых.

*— Відаць, здараюцца выпадкі супраці-ву з боку гаспадарнікаў?*

— Рэч у тым, што "аб`ект" – гэта ўсё ж такі не "тэрыторыя", як у выпадку з за-казнікам. І сам аб`ект, і зямля, на якой ён знаходзіцца, не забіраюцца ў кары-стальнікаў. Таму супраціву асаблівага няма. Ёсць, можа, часам пасіўнасць, няспешнасць, нежаданне рабіць тое, што ад цябе залежыць. Але да гэтага трэба ставіцца па-філасофску. У боль-шасці ёсць разуменне святой справы на карысць прыроды, гонар за родны край.

*— І колькі ж помнікаў прыроды мы маем на сённяшні дзень?*

— На пачатак 1998 года на Беларусі існуюць 283 помнікі прыроды рэспуб-ліканскага значэння і 378 – мясцовага. Скажу адразу, што гэта яшчэ вельмі мала.

*— Многа ці мала?.. Які тут крытэрый для меркаванняў?*

— Вось і мяркуйце: у Германіі адных толькі валуноў узята пад ахову больш за тысячу! Тое ж самае ў Прыбалтыцы, іншых краінах. Вы спытаеце, у чым прычына. Толькі не ў тым, што наш па-тэнцыял меншы. Наадварот. Патэнцы-ял вельмі значны. Але актыўна зай-мацца гэтай справай мы пачалі з вя-лікім спазненнем. Трэба даганяць час, не ўпускаць сённяшнія магчымасці. Актыўна ўключылася ў працу Гродзен-шчына. З надзвычайным энтузіязмам вядзе пошукі інстытут геалогіі Акадэміі навук. Другі год пад кіраўніцтвам пра-фесара Федарука вывучаецца стан старадаўніх паркаў. У адной толькі Ві-цебскай вобласці было вылучана для аховы 80 паркаў, хоць там іх значна больш; на жаль, большая палавіна ўсёй колькасці – а гэта за 200! — у леп-шым выпадку захавала пра сябе кво-лы знак. На чарзе Гродзенская і Брэ-цкая вобласці, дзе канцэнтрацыя паркавых ансамбляў надзвычай высокая. Паркі ўвогуле надзвычай клопатная частка помнікаў прыроды. Таму было б добра, каб ваша газета ўсяляк спрыяла арганізацыі добра-ахвотных грамадскіх дружын, клубаў, дэсантаў па іх доглядзе.

*— Лічыце, Марына Георгіеўна, што заклік зроблены... А ўвогуле, не пада-ецца Вам, што пакуль мы з Вамі гу-тарым ці пакуль наша гутарка будзе рыхтавацца ў друк, патэнцыяльных помнікаў можа паменшыцца? Дзесьці на паркетную дошку спілуюць дуб-легенду, развязуць па будоўлях пясча-ную горку, падарвуць камень, на якім "чэрці кажухі шылі"... Зрэшты, будзем лічыць, што пытанне маё сумна ры-тарычнае. Бо так яно і бывае... А што Вы хацелі б пажадаць усім аматарам прыроды, аб чым папрасіць?*

— Любіць і як мага берагчы прыроду. Бо тое, што сёння не мае ахоўнага зна-ку, заўтра будзе вартае называцца по-мнікам. А магчыма, вартае ўжо цяпер і патрабуе неадкладнага ўдзелу і до-сведу. Таму будзьце ўважлівыя, азір-ніцеся навокал. Стаць "аўтарам" пры-роднага помніка – значыць, заслужыць прызнанне ў нашчадкаў, бо гэта не менш ганарова, чым напісаць паэму, намаляваць шэдэўр, стварыць выдатную скульптуру...

*— З Вамі нельга не пагадзіцца. Дзякуй за гутарку!*

***Параўнайце!***

**У Германіі адных толькі валуноў узята пад ахову больш за тысячу. У нас жа ўсіх помнікаў прыроды – з дубровамі, паркамі, крыніцамі, рэльефнымі формамі, гідралагічнымі аб'ектамі, — агулам нябярэцца на палавіну.**

**Рэдакцыя разумее, што ў гутарцы толькі пазначаны пытанні ахоўнай палітыкі ў дачыненні шматлікіх аб'ек-таў прыроднай спадчыны Беларусі. Аднак у артыкуле выразна прасоч-ваецца галоўны напрамак дзеянняў: *не спаць у шапку і падаваць кан-крэтныя прапановы.***

**Для неабходных кантактаў пакідаем тэлефон і адрас Міністэрства, па якіх можна звязацца з Марынай Георгіеўнай Кудрашовай:**
***220084 Мінск вул. Калектарная 10, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, тэлефон 220-64-20.***



 

*Калі мяняецца клімат Зямлі і ў дзеянне прыходзяць глыбіні сусвету, калі катастрофа за катастрофай пракочваюцца па планеце, пагражаючы пальцам на блазноцтвы чалавека; калі чалавецтва не хоча "абувацца ў лапці" і "жыць проста", але пры гэтым хоча жыць, — настае неабходнасць спыніцца і азірнуцца, асэнсаваць шлях, на які ўсё больш паказваюць шыльдачкі са словамі: "У бездань". Мюрэй Букчын (ЗША) па-свойму бачыць выйсце, абагульняючы і аспрэчваючы высновы на гэты конт. Аднак пакуль кожны з нас будзе чытаць ягоныя развагі, тым часам вакол нас будзе адбывацца процьма безразважных "антыэкалагічных" дзеянняў.*

# Сацыяльныя карані экалагічных катастрофаў

## *Мюрэй Букчын:* "Мы жывём у грамадстве, якому ўласцівая антыэкалагічнасць"

Мы схільныя ўважаць экалагічныя катастрофы, накшталт разліва нафты з танкера Эксан Валдэз блізу Аляскі — за шараговыя "няшчасныя выпадкі", рэдкія з`явы, якія здараюцца раптам, без якога-кольвек папярэджання. Але ж калі, нарэшце, само гэтае словазлучэнне "няшчасны выпадак" будзе ўспрымацца інакш — як неадпаведнае становішчу справў? Калі, у рэшце рэшт, такія здарэнні пачнуць лічыцца непазбежным наступствам нашага грамадскага развіцця, а не толькі як трагічныя выпадковасці? Для абаронцаў навакольнага асяроддзя павінна быць зразумела, што глабальны экалагічны крызіс — гэта вынік сацыяльнагай эканамічнай будовы нашага грамадства, а не проста вынік асобных няўдач. Калі здарэнне з Эксан Валдэз, гэтак жа, як і Чарнобыль альбо аварыі на іншых атамных электрастанцыях, тлумачыць як няшчасны выпадак — грамадская думка ізноў будзе адцягнута ад сацыяльнага крызіса гістарычных прапорцый: мы жывём у грамадстве, якому ўласцівая антыэкалагічнасць.

Гэтая сітуацыя не можа быць выпраўленая дзеяннямі дзяржаўных мужоў або асобнымі заканадаўчымі актамі. Галоўная задача палягае на тым, каб у грамадстве адбыліся глыбокія структурныя змены. Магчыма, найбольш прыкметнай праблемай ёсць бескантрольны рост. У сённяшнім грамадстве неабмежаваны эканамічны рост прынята ўважаць за сведчанне прагрэсу чалавецтва. На справе рост ёсць амаль што сінонімам рыначнай эканомікі, якая прэвалюе сення ў ЗША і ў свеце. Гэта выразна адлюстравана ў папулярным лозунгу бізнесу: "расці альбо загінуць". Мы жывём у свеце спаборніцтва, дзе канкурэн-цыя ёсць законам эканамічнага жыцця.

*Чалавечае гняздо, руплівa зладаванае на стагоддзі, можа ў адзін момант зрабіцца чужым і нікчэмным, калі зямля, вада і паветра напоўняцца ядам атруты. Не толькі гэты хутар (на здымку), але цэлыя вёскі, мястэчкі, нават гарады могуць апынуцца ў так званай "зоне адчужэння". Менавіта ў такой рэальнасці і знаходзіцца сённяшняя Беларусь, нават збольшага не ахаваная ані законамі, ані дасведчанымі кіраўнікамі ведамстваў, якія прымаюць рашэнні "у інтарэсах народа".*

*Фота: Аляксандр Гутоўскі ("Нерушпрэс")*



Аднак, не адзін толькі рост вінаваты ў нашых экалагічных праблемах. Малюнак грамадства паўстае з сістэмы глыбока закаранелых структураў, дзе рост ёсць з'яваю паверхоўнай. У шырокай рыначнай эканоміцы (калі браць карпаратыўны тып у Злучаных Штатах альбо бюракратычны — у Савецкім Саюзе) спаборніцтва само па сабе робіць рост неабходным. Для кожнага прадпрыемства рост — лепшая абарона перад пагрозай паглынання з боку канкурэнта. Калі глядзець на рост па-за ягонай галоўнай крыніцай — спаборніцтвам у рыначным грамадстве, — патрабаванні кантролю за ростам не маюць сэнсу, роўна як не маюць шанцаў быць выкананыя. Мы не можам абмяжоўваць рост, пакідаючы нязменным рынак, гэтак жа як не можам абмежаваць эгаізм, пакідаючы нязменнай канкурэнцыю.

Яшчэ адно папулярнае вытлумачэнне экалагічнага крызісу — рост насельніцтва планеты. Гэты аргумент выглядаў бы пераканальным, калі б мы бачылі, што краіны, дзе рост насельніцтва выяўляе шпаркія тэмпы, больш за ўсіх спажываюць энергіі, сыравіны ці хоць бы прадуктаў харчавання.

Аднак не сакрэт, што індустрыяльныя нацы, якія дэманструюць самую нізкую нараджальнасць, тым часам наносяць непрапарцыянальна большы экалагічны ўрон.

"Індустрыяльнае грамадства" (дазволю сабе скарыстацца гэтым мяккім вызначэннем капіталізма) таксама зрабілася спрошчаным сродкам вытлумачэння экалагічных катастрофаў, што скаланаюць наш час. Бясклапотнае няведанне засланяе той факт, што колькі стагоддзяў таму большая частка лясоў Англіі, разам з легендарнымі лясамі Робін Гуда, злегла пад грубымі сякерамі пралетарыяў-вугальшчыкаў на штодзённае паліва ў кузнях ды на зялёныя разлеглыя пашы. Гэта адбылося задоўга да індустрыяльнай рэвалюцыі.

Тэхналогія можа паглыбіць праблему, нарэшце, пабольшыць, узмоцніць яе. Але рэдка калі тэхналогія выклікае саму праблему. Гава-рыць пра магчымасць вырашэння праблемы росту без адпаведнага сацыяльнага і эканамічнага кантэк-сту азначае скажаць і індывідуалізаваць экалагічную праблематыку. Гэта несправядліва і несумленна прымушаць людзей паверыць у іх-нюю асабістую адказнасць за экалагічную небяспеку сённяшняга дня толькі на той падставе, што яны залішне шмат спажываюць альбо вельмі шмат нараджаюць дзяцей. Гэтая індывідуалізацыя экалагічнага крызісу прывяла шматлікія экалагічныя рухі да поўнай неэфектыўнасці і пагражае знізіць давер да іх з боку грамадскасці.

**Калі "простае жыццё" і артадаксальнае "паўторнае скарыстанне прадукцыіі" ёсць нашым адзіным адказам на экалагічны крызіс, — крызіс будзе безумоўна ўзмацняцца.**

Па іроніі, мноства простых людзей, іхніх сем'яў не здольныя "жыць проста"... Грамадскі клопат пра навакольнае асяроддзе не можа быць арыентаваны на абскарджанне росту. Але і тлумачэнне не можа быць вычарпана спасылкамі на "спажыванне", калі пры гэтым ігнаруецца злавесная роля вытворцаў, якія бягуць навыперадкі, каб як мага дагадзіць грамадскаму густу, усяляк задаволіць пакупніцкую энергію.

Сацыяльныя карані нашых экалагічных праблемаў будуць заставацца схаванымі, калі спрашчаць сапраўдны крызіс і тым самым не даваць яму вырашацца.


SUMMARY

**What are the social roots of all ecological catastrophes? Murey Bukchin brings up this acutely global question, although he doesn't answer it, but simply invites us to think about it and discuss it.**


### *Маятнік Уладзіміра Бойкі*

*Менавіта маятнік — адлічальнік часу, што застасцца нам, чалавецтву, каб паправіць стасункі з навакольнымі асяродкамі, — з'явіўся на старонках часопіса "Родная прырода" у 1992 годзе. Мастак і філосаф Ул. Бойка, які працаваў там кароткі час, так праілюстраваў тэму чарнобыльскіх наступстваў на Беларусі.*

***Чытаючы нататкі Мюрэя Букчына,** я час ад часу паміж абзацамі лавіў сябе на тым, што сітуацыя, якая вымагае "глыбокіх структурных зменаў"у грамадстве, але ніяк не скранецца з мёртвай кропкі, вельмі ўжо нагадвае барацьбу з п`янствам, калі выкрываецца не ідэалогія п`янства, а ўшчуваецца кожны асобны п`яніца.*

***Чытаючы нататкі Мюрэя Букчына,** я піў каву, прыгатаваную на вадзе, якую ўжо небяспечна піць адразу з-пад крана, гэта значыць, неадфільтраваную. Я падумаў, што калі ўсе мы здабудзем ачышчальныя фільтры і паставім іх на нашых кухнях, "структурных зменаў" будзе сапраўды дачакацца цяжка. Бо ўсе адчуюць жаданую палёгку і не будуць ціснуць на ўрад ці парламент, патрабаваць ад іх адзіную канцэпцыю вырашэння экалагічных праблем (фільтры, зразумела, гэтых праблемаў не вырашаюць).*

***Чытаючы нататкі Мюрэя Букчына,** я ўспомніў свой родны лес. У ім цяпер лёгка натрапіць на смеццезвалку. І прыгадаў прагноз, паводле якога блізу 2017 года зямляне загінуць пад адыходамі чалавечае жыццядзейнасці.*

**Віталь Прошча**

# АПАКАЛІПСІС

APOCALYPSE

# Паланез Агінскага. Канец XX стагоддзя

## Фрагменты сцэнарыя дакументальнага відэафільма

*Трагедыя Чарнобыля закранула найбольш адчувальную , тонкую і чыстую струну Беларусі – тую, што ў душах яе дзяцей. Дзяцей-выгнаннікаў, дзяцей-чарнобыльцаў. Наш відэафільм складаецца з невялікіх літаратурных твораў – сачыненняў школьнікаў, якія ў сваіх споведзях спрабуюць асэнсаваць Беларускі Чарнобыльскі Шлях. Для многіх з іх – гэта шлях выгнання з родных мясцінаў, развітанне з радзімай. Жывучы паміж нас, яны быццам птушкі ўзняліся высока, над намі, па-над сваімі гнёздамі, не маючы магчымасці ў іх сесці, затуліцца ад жорсткасцяў знешняга свету...*

*У фільме 7 навел: Хмара, Боль, Крыж, Беларусы, Пралескі, Парог, Малітва. Тры з іх, заключныя, прапануем ўвазе чытачоў.*

*Валерый Дранчук*

*Запавольненыя чорна-белыя кадры: бусел спрабуе ўзняцца, але з неймавернай цяжкасцю пераадольвае прыцягненне зямлі, размахвае крыламі.*

*Ствол бярозы.Пісьмёны кары. Разгойданае голле.*

*Графіка бярозы. Пісьмёны зноў збіраюцца ў словы.*

### Пралескі. *Навела пятая*

*Гукі Паланеза больш выразныя. На экране некалькі ілюстрацый чалавечай грахоўнасці на зямлі: дымныя трубы гарадской ускраіны, каналізаваная рэчка, іншыя прыклады спусташэння. Камера спыняецца побач з кладкай цераз рэчку, за якой праглядваецца гарадскі громазд і дыміць заводская труба.*

“Няма на свеце для сэрца нічога мілейшага за родны край. Прырода Беларусі адбілася на характары народа, зрабіла яго мяккім, добрым, зычлівым. Але ёсць няўдзячныя людзі — спусташальнікі зямлі, яе харавства і ладу. Чаго толькі яны не рабілі з ёй! Палілі, дратавалі войнамі, пасыпалі ядамі. Секлі лясы, асушалі рэчкі. Нарэшце, пачалі будаваць атамныя станцыі...”

*Прагаліна. Сон-трава. Дрыготкі вясновы дзень вытканы з першай зеляніны, графікі абуджаных галінак, святла і ценяў, сцяжынак, кропелек расы, россыпаў пралесак.*

“Я ўспамінаю, як мы з сяброўкамі хадзілі ў лес па пралескі. Наўкола птушкі спяваюць, а пад нагамі — дыван з кветак. Яны такія пяшчотныя, пахнуць свежасцю, збіраеш — і хочацца спяваць ад шчасця. Гэта было так даўно, што ўжо, здаецца, і няпраўда... З грыбоў запомніліся падасінавікі, мухаморы і каляровыя сыраежкі. Цяпер лес чамусьці не каляровы, а чорна-белы. Мусіць, ад таго, што было шмат пажараў. Дрэвы і трава абвугленыя. Калі заходзіш у гэты нежывы лес, сэрца сціскаецца ад болю. Мне часам здаецца, што гэта здарылася са мною. Я шмат разоў памірала, каб зноў выжыць...”

“Нас увесь час вучылі, што зялёнае наваколле дадзена дзеля радасці і шчасця чалавека, а цяпер пачалі папярэджваць, што да зялёных галінак нельга дакранацца рукамі.”

“Мы карыстаемся гаючымі сіламі роднай зямлі, энергіяй, што ў самой прыродзе. Трэба, каб людзі больш беражліва адносіліся да сябе і сваёй блакітнай планеты. Хочацца верыць, што мы не страцім тое, што ў нас яшчэ засталося”.

*Камера нечакана наяджае на кучу смецця ў зялёнай зоне — чалавек «апаражніўся». Двайны экран: стыхійная звалка і чацвёрты блок Чар-нобыльскага рэактара.*

“Часам хочацца, каб забруджаную зямлю пакрыў белы-белы снег і каб разам з ім растала і наша бяда. На жаль, такі цуд магчымы хіба толькі ў мроях. Цяперашняя рэальнасць – гэта атручаная зямля, смертаносны лес і калючы дрот вакол зоны”.

*Графіка бярозы.*

### Парог. *Навела шостая*

*Зноў ваколіцы зоны. Калючы дрот. Пакінутая хата. Крыж-накрыж забітае акно. Шыбы, асцяплыя з таго часу, калі праз іх апошні раз пазіралі вочы гаспадароў. Камера ловіць трывожна-тужлівыя водсветы ў шклах. Парог...*

“Мне часта ўспамінаюцца наш квітнеючы сад, рачулка за селішчам, бусел на слупе, бабуля з кубкам сырадою. *(Элегічная мелодыя Паланеза).* Хочацца яшчэ і яшчэ раз хоць бы ў сне, пераступіць парог роднай хаты.

А прачнешся — перад табою жорсткая рэальнасць: жаданага вяртання назад няма. Мне страшна праязджаць міма былой вёскі, абнесенай калючым дротам. Здаецца, што гэты дрот абкруціў не “мёртвую зону”, а вялікую чалавечую душу, моцна ўпіваючыся ў яе іржавымі калючкамі. Вёска — магіла. Толькі абуджаны сок, што капае долу з бяроз, парушае гэту магільную цішыню...”

*Старыя пахілыя бярозы пры гасцінцы. Бязлюдны шлях.*

“Летам 1990 года мы пераязджалі ўсей сям`ёй у Баранавічы. Я пайшла на вуліцу, стала каля бяроз, каб надоўга запомніць іх водар, іх сцішанае святло.”

*Бярозы, здаецца, плачуць. А, можа, моляцца за людзей?*

“Многія людзі з забруджанай тэрыторыі назаўсёды развіталіся са сваімі мясцінамі. У сталым узросце цяжка прырастаць на новым месцы. Бачу гэта па сумных вачах бабулі, цёткі Надзеі. Цяпер яны жывуць у розных кутках Беларусі. А іхняя вёска каторы год зарастае дзядоўнікам у рост чалавека. Не існуе больш і вёска, дзе жыла другая мая бабуля Алена. У год яе смерці пахавалі і вёску. Засталася толькі іржавая воданапорная вежа. Можа, яна ператварылася ў крыж?”

*Зноў дарога. Ўчарнелыя бярозы хітаюць вецем. З надламанай галінкі кропля за кропляй, парушаючы цішу, сцякае абуджаны сок. Кап, кап, кап... Тым часам камера вяртаецца на парог, які вартуе ўспаміны.*

“Калі да новага месца заставалася некалькі кіламетраў, мяне пачалі душыць слёзы.Я зразумела, што назад дарогі няма, што ніколі не пабачу ні грушы, якая расла насупраць майго акна, ні прыгажуньвербаў каля пад`езда. Яны быццам плакалі разам з намі...Цяпер у нас новы дом, новыя сябры. Але як хочацца хоць на некалькі хвілін вярнуцца дадому, на сапраўдную радзіму...”

*Вокны хаты, бярвенні зруба, кало дзеж, карункі саду.*

“Мне часта сняцца сны, у якіх я бачу сваю хату, родную школу, лес, дзе збірала ягады і грыбы. Сняцца кветкі ў садзе, пакінутыя лялькі.”

*Графіка бярозы.*

### Малітва. *Навела сёмая*

*Словы знікаюць. На чорным экране полымя свечкі... Яно то цярпліва спакойнае, то б'ецца ў трывозе і роспачы. Двайны экран. Кадры хронікі.*

“Божа наш літасцівы! Выратуй нас і нашу Радзіму. Абарані Беларусь ад гэтай чорнай навалы, што хоча нас загубіць, пасеяць ноч і жах небыцця. Пасялі ў нашы сэрцы надзею і веру! Не пакідай нас!”

“Божа, калі ты ёсць на свеце, зрабі так, каб па-ранейшаму весела шчабяталі птушкі, каб ішоў спорны дождж на палеткі, калі яны просяць піць, і каб дождж быў без стронцыю... “

*Словы “каб дождж быў без стронцыю” паўтараюцца двайным-трайным рэхам. Апошнія кадры: руіны храма сярод старых могілак. Храм разбурыўся і занепаў хутчэй ад людскае няўвагі, інертнасці. Камера нетаропка вывучае архітэктуру былога астраўка святасці.*

*Гучыць Паланез.*

*Побач, цераз дарогу — калгасная ферма, каробкі пабудоваў. Гэтакі запаведнічак антыэстэтыкі.*

*З дарогі на храм пазіраюць дзядуля і хлопчык.*

*Крыжы могілак. Карканне варання.*

*Лінія гарызонта. Клубы аблачыння.*

*Абрывы на лініі электраперадач.*

*Пакручаны дрот.*

*Гудзенне. Адкуль?*

*Голас зямлі. Крык птахі. Акорды Паланеза.*

*Па шырокай дарозе ў бок храма ідзе, аддаляючыся і аддаляючыся, чалавек, западаючы на нагу.*

«Божа, калі ты ёсць на свеце, зрабі так, каб па-ранейшаму весела шчабяталі птушкі, каб ішоў спорны дождж на палеткі, калі яны просяць піць, і каб дождж быў без стронцыю...»

*У фільме гучаць радкі з сачыненняў: Вольгі Кушняровай, Каці Шаўцовай, Таццяны Кулакоўскай, Марыны Мірановіч, Максіма Пасікава, Аксаны Савачкінай, Таццяны Калядка, Уладзіміра Багдановіча, Дзіны Аксёнавай, Надзеі Баран, Наташы Івановай, Аксаны Багушэвіч, Святланы Малцянік, Вадзіма Бакуліна, Алексея Хілько і інш.*



*Здымак з зоны: Сяргей Брушко*

### Чорны дзень белага бусла

*Яго лёдзьве заўважыш на вільчыку слупа. Невядома, колькі хвілінаў, гадзінаў ці дзён ён яшчэ прастаіць у журбе, азіраючы наваколле.*

*На гэтую параненую зямлю, што абязлюднела пасля вясны 1986-га, па лініі электраперадачы гналі “энергію святла” з Чарнобыльскай АЭС. Прыгналі — чорны дзень. Ніколі не даве-даецца бусел — птушка шчасця — пра чалавечую трагедыю. Відаць, і яму давядзецца развітацца з радзімай, ляцець да людзей, што падаліся ад роднага дому...*

SUMMARY

***This Chernobyl section familiarises readers with extracts of the script from a documentary video called “Aginskiy's Polonaise. The end of the 20th century”. The film is made up of children's memories of their homelands which were left behind in the contaminated zone, as bitter fate decreed.***

# ЗАНАТОЎКІ

NOTES

Новая рубрыка будзе арыентавацца на дзённікавыя запісы, падарожныя ўражанні, на ўсё прыродалюбнае, што застаецца на паперы ад пачутага, ўбачанага, перажытага побач з прыродай

## Жаўранак тваёй душы

**_Валерый Дранчук_**

Што ні ранне, то нешта адметнае, новае ў кожным. Адно не паўтарае другое. Інакшае неба, воблакі, цені, настрой дрэў.

Хваляў не было, але возера калыхалася. І разам з ім калыхалася пёрыстае аблачынне нябёсаў. Усё вельмі хораша вязалася: і подых свежага ветрыка, і азёрнае калыханне, і шчабятлівы птушыны грай, і велічны касцёл з арганам, і ў аддаленні — Слуцкая брама з поўным і чыстым адлюстраваннем на глыбокай вадзе.

У фільме *“Самыя высокія горы”* ёсць кадр, які доўжыцца не больш як 10 секунд: робат-чалавек пасярод рамонкавага поля. Але менавіта гэты кадр выразна застаўся ў памяці і пры самай асцярожнай згадцы наводзіць жах. Чамусьці трактар, нават гусенічны, успрымаецца зусім інакш.

Стары вячысты парк... Ён склаў тысячы песень і дзесьці развеяў іх на вятрах стагоддзяў. Збяры іх, паслухай.

З пачутага на Стаўбцоўшчыне, там, дзе Жацерава, Асіпаўшчына: “Ай, няма дажджу, і гэта не дождж. Каб нацягнула як с е ч к і!..”

Мастак-графік Васіль Ткачук назваў кармушку за акном ці не ўлюбёным сваім аб‘ектам. “Птушкі, — распавядаў ён, — гатовыя натуршчыкі”...

Цяпер, калі гляджу на кармушку за акном сваёй кватэры, часта бачу гатовыя графічныя аркушы з чародкамі крылатых сталоўнікаў.

З клеткі ў няведамы свет вылецеў папугай Чыпа. Клетка стаяла на балконе і Юля, маленькая гаспадынька, вырашыла пасабіць маме – памяняць для Чыпы ваду.

“Ён падружыцца з ластавачкай, праўда ж?” – хвалявалася дзяўчынка.

“Або з кім паменей – з верабейчыкамі... “– не супакойвалася.

“Ён, мабыць, заляцеў да некага. Можа, да нашых суседзяў. Трэба ім хуценька клетку занесці”...

І сум, і радасць за дзейны дзіцячы клопат.



*Замалёўкі з натуры*
*Валерый Дранчук*

Пасля калядаў і навагодніх святаў яшчэ доўга на снезе ў парку валяюцца лапкі пасечаных ёлачак. Нібы абгрызеныя костачкі.

17 сакавіка 1996 года. Скон сапраўднай зімы. Снежнай, з тоўшчаю покрыва, без адлігаў. Асляпляльна белыя дахі хат, на скатах сінія цені ад комінаў і дрэў. Лыжны след яшчэ трывалы і з халадком. Сям-там сонца ўжо кранула палазок, і хада прытарможваецца.

Самотны і праглынуты абшарам, хутар здалёку не выдае прыкметаў жыцця.

Сэрца хутара б‘ецца знутры.

Сярэдзіна верасня. Пасля дажджоў неба пасвятлела, і гарызонт на захадзе ператварыўся ў вечаровы вернісаж: пастэльныя тоны й адценні чаргуюцца ў паслядоўнасці неасаджаных у рамы карцін: адной, другой, трэцяй...Можна стаяць і любавацца. Ды ўяўляць сябе ў музеі пад высокай нябеснаю столлю.



“Возная дарога, на якой старшыня калгаса забараніў ездзіць маторнай тэхніцы...“ Запісаў гэта ў блакнот, калі працаваў карэспандэнтам “Звязды” і вёў там рубрыку “Чым хата багата”. На жаль, не пазначыў раён, ці хоць бы, ад каго чуў. Хто ён, гэты старшыня? Нешта крыху прыгадваецца – можа, Старадарожчына, Случчына... І ўжо, напэўна, наўрад ці сустрэнуся я з тым старшынёю. Не паслухаю, не распытаю цікавага чалавека. Мой рэпартаж растварыўся ў часе. Але нават гэтаю сціплаю згадкай мой “занатаваны” герой спыняе, азараючы сваім светаглядам.



Колькі такіх вынаходнікаў зручнасці і харства па ўсёй Беларусі? Гаспадарлівых, пашанотна ўважлівых да наваколля?

Чуў, на Нясвіжчыне, там, дзе вёска Астроўкі, за людскімі гародамі луг красаваў — больш чым луг: яго доўга не скошвалі, шанавалі, як духмяны хлебны акраец, для акрасы душы, для свята ў будзень. Кажуць, і вокны хатаў глядзелі на луг.

Вось толькі шкада, было гэта да меліярацыі.

Рэчавая недаўгавечнасць множыць на нашай зямлі смецце. І разам з тым бязмерна чэрпае, з‘ядае нашы багацці і нашы набыткі. Усім і ва ўсім я жадаў бы даўгавечнасці. Будзе даўгавечнасць – будзе менш на нашай зямлі смецця і больш багацця.

Многія аўтакіроўцы, мабыць, думаюць так: калі я купіў сабе легкавік, дык цяпер я ўжо поўны гаспадар на дарозе. Ні пешаму, глядзіш, ні на ровары месца не застаецца. Нахабна сігналяць, абганяюць, мацюкаюцца. Прэч на абочыну! Хамства – як стыль паводзінаў. Аднак не толькі. Ні дзяржава, ні грамадства нічога не зрабілі, каб давесці да ўсіх выснову, што аўтамабіль сёння – самы моцны атручвальнік паветра.

Бачу з дарогі, як ля рэчкі Жацераўкі, што прабягае праз Новы Свержань, у сонечнай асалодзе бавяцца дзеці. Ды так падобныя на буслянят, якія вылецелі з гнязда і абселі старую залеглую вярбу, што сюжэт выдаецца класічным. З адчуваннем блізкага – рукой падаць – самога бацькі-Нёмана.

Лавеў ветрыку, што кранае цябе за локаць, — гэта дотык далёкага і неабсяжнага космасу. І кропелька дажджу на шчацэ, і сняжынка з неба – усё адтуль, з таямніц і глыбіняў сусвету.

Прысеў на лаўку ў скверы і доўга не мог засяродзіцца. Цвіла вішня, водар кветак карагодзіў на ўсю моц, да салодкай свежасці.

Міма прайшоў стары чалавек з бледным сухім тварам. Яго амаль бяскроўныя вусны ўсміхнуліся, ён сказаў: “Як цвіце...” Спыніўся і неслухмянымі пальцамі крануў галінку.

Салоўка выцягваў трэль за трэллю, а я доўга стаяў пасярод алеі і, заслуханы, у анямелні, пасылаў яму сваю ўдзячнасць.

Потым заўсёды, калі прыходзіў у гэты гай, у гэтую алею, спыняўся каля маладога яварка. Я пасылаў сваю ўдзячнасць яму, гэтай алеі, і гэтаму гаю.



Канец траўня. Лужынкі пасля начнога дажджу зацягнуты белапялёсткавай раскай – гэта яблыні ды вішні абтрасаюць на дол сваю квецень. Гэтулькі далікатных пацалункаў, лёгкіх дакрананняў пасылаюць зямлі і вецер, і сад, і, можа, я сам, стоячы ў лонях неабдымнай пяшчоты.

Вядомы дзеяч Прытыцкі ў 1939 годзе, выступаючы на сходзе з дакладам, казаў: “І ўсё гэта: нашы свежыя густыя смалістыя лясы, нашы неабдымныя палі, нашы сінія азёры і рэкі, нашы сады і агароды – усё гэта груба схапілі сваімі рабаўнічымі лапамі радзівілы, панятоўскія, бекі ды іншыя яснавяльможныя бандыты” (пераклад з рускай; “Жизнь, отданная народу”, Мінск, “Беларусь”, 1978).

Калі адкінуць убок палітыку, застаешся сам-насам з пытаннем: а ў чые рукі ўсё гэта патрапіла? Што зрабіла савецкая планавая гаспадарка з нашымі сапраўды “неабдымнымі” прыроднымі багаццямі? Знішчаны рэчкі, панявечаныя лясы, балоты, ландшафты. А неабсяжныя палі, хутары, сады-агароды замест росквіту праглынутыя “небывалым” размахам індустрыяльных будоўляў, патручаныя сельгасхіміяй, сапхнутыя ў апраметную.

Бандыцкі гвалт чыніўся без “радзівілаў”, “панятоўскіх” і “бекаў”.

Стаяць пад дубам і глядзець, як ён велічна развесіў галіны. Не так, каб нізка, да самай зямлі. Але так, што адчуваеш над сабою яго зялёную столь і пачуваешся нібы ў хаце.

Дуб – як бацька, як галава сям‘і, да якога туляцца дзеці.

Лес — чароўнае сумежжа спякоты і гаючага халадку, мяккага моху і жорсткіх шыпулек.

Сярэдзіна чэрвеня. Ціха, сонечна, цёпла. На таполях – дрыготкія, серабрыста-пухмяныя камячкі. Хоць бяры ды здымай асцярожна рукой, быццам каштоўны прыродны прадукт.

Пад разгалістым ясенем, што застаўся пільнаваць былую леснічоўку, сяджу і малюю на сходзе сонца. Па ружовым ствале прамільгнуў цень, і я падняў позірк. Блізенька, за метр ад мяне, на самы ніжні сук спусцілася вавёрка. Абхапіла стволік і пазірае ўніз: хто ты? Я штосьці прамовіў з усмешкай, і яна адразу перакінулася на “паверх” вышэй. Зноў знайшла зялёнае акенца, каб азірнуцца на мяне,







паглядзець пранікнёна і ўважліва, можа, нават падміргнуць.

Мне пры гэтым цікава было зразумець сябе. Па-першае, хацелася як мага затрымаць увагу маленькай лясной спадарыні, не спудзіць яе. А яна, дапытлівая істота, магла пацешыцца мной, бо заспела мяне ў рэдкую хвіліну шчаслівага здзіўлення і асалоды. Гэта па-другое.

Запусцелага саду даносіўся гук, і я доўга не мог разгадаць, што гэта, адкуль звон. Нарэшце, зразумеў і нават крок за крокам падышоў да самай яблынькі: на асеннім ветрыку лапатаў лісток-трапятун. Але перш чым зразумеў — колькі ўсяго ўявіў, да чаго толькі не прыклаўся вухам! І насцярожыўся, і нават успомніў, як летам на ўскрайку лесу заўважылі з сынам коніка ў траве. Нахіліліся блізка, нос у нос, і ён паказваў нам тэхніку свайго фантастычнага спеву.

Калі ўвесну капаю грады, з-пад рыдлёўкі вымаю кавалкі жалеза, пластмасы ды безліч іншага смецця, аддадзенага зямлі, і думаю: гэтак бязжаласна мучым нашу карміцельку, набіваючы яе ўлонне тым, з чым справіцца ёй вельмі цяжка, што высільвае яе нутро, адцягвае ад пракавечнага занятку. Ці снілася гэтай зямлі хоць аднойчы, што ёй давядзецца грызці жалеза?

З праходкі па асенніх алеях вярнуўся дахаты з пустымі рукамі. Нічога не падняў, каб прыхапіць з сабою. Усё, што так зачароўвала, ляжала ля ног у свежай, зусім непрывялай красе і даступнасці — нагніся й вазьмі, засталося ляжаць там, на алеях. І я задумаўся: чаму раптам не стала жадання складаць букет, несці яго ў дом? Можа, настрой, няспешнасць сузірання. Ходзім жа мы па залах музеяў, глядзім на выдатныя палотны і цалкам задавальняемся адно тым, што бачым, што сузіраем. Можа, і мне неўпрыкмет падалося, што я ў музеі прыроды альбо яе велічным храме, у месцы сваёй малітвы. І мне не хацелася парушаць гэтае ўражанне, складаць букет, які праз некалькі гадзін ссохне і зробіцца мёртвы ў мяне на стале...

У адчыненую фортку з балкона даляцеў басавіты гул. Няўжо чмялі падняліся на мой чацвёрты паверх? Выйшаў паглядзець. У гаршках квяціста буяла раслінасць, разліваючы воблака водару. А з кветкі на кветку пераляталі два чмялі. Не самыя сціплыя госці, затое руплівыя: абгледзелі ўсе прынадныя мясціны фіялетавых павойчыкаў, азартна хаваючыся ў глыбіні кветкі, узялі што трэба, потым вярнуліся назад, быццам нечага там-сям недабралі, — і адляцелі ў зялёна-сонечную бездань летняга акіяна.

З гадамі бывае так: Хочацца бачыць не проста дрэва, а тое, што з дзяцінства тваё. І сэрца б'ецца часцей, робіцца лагаднейшае, калі кветка – з роднага поля, лугу, узлеску.

Седзячы ў цягніку і гляджу за вакно, міжволі думаю: прайсці б, перамераць гэтыя вёрсты крокамі. Ад дрэва да дрэва. Ад куста да куста. Ад курцінкі да курцінкі фіялетавага лубіну. Ад копкі да копкі, складзенай ды гладзенька прычасанай. Прамільгне і сцяжынка, і пагорачак, і балацінка з люстэркам вады. Усё адплывае, змяняецца чымсьці новым ды гэткім жа вабным, шчымліва родным, бацькоўскім. Застаецца толькі асалоднае шкадаванне і часам надзея: а вось, калі-небудзь...

З памяці: вясковыя жанчыны прыбіраюцца ў паркалёва-белаквяцістае і чыстае. Сядзяць на лаўках. А побач цвіце светлы пахучы язмін.

Абвечарэлай сцяжынкай вяртаўся дахаты. У ліпавых кронах за лугам драбілася нізкае сонца. Траўнае царства дрымотна аціхла, агарнуўшыся халадком ценю. Розныя жучкі ды кузуркі, за дзень натаміўшыся, паўкладаліся спаць, і я, час ад часу збіваючыся са сцяжынкі, парушаў іх начны спакой.

Прырода час ад часу помсціць чалавеку за прычыненыя ёй пакуты. І ўсё ж яе норавы грунтуюцца на вялікай спагадзе і ўсёдаравальнасці. Яна мілуе нас, дзяцей сваіх, як добрая і ўсемагутная маці.

Ехаў, самотны, на ровары, і нада мною дзесьці ў нябёсах усю дарогу спяваў жаўранак. А што, калі ён не проста твой спадарожнік, а... ты – ягоны абраннік... І гэта твой жаўранак, жаўранак тваёй душы.

1983 - 1998

SUMMARY

***Valeriy Dranchuk entitled these lyrical notes "The Skylark of Your Soul". Everything nature-loving left from his field notebooks of what was heard, seen and lived together with nature has found its place here in this section. Drawings by the author.***

# Святая "крыніца-капліца"

***Іван Івашка***

Я дабіраўся сюды ледзь не па ўсіх правілах прыгодніцкага сюжэту. Спусціўшыся па глухіх вулічках і завулках, выйшаў да возера, зарослага ля берагоў чаротам і абстаўленага рыбацкімі чоўнамі. Пасля папоўз па ствале вербалоза, нахіленага над вадой, са ствала перабраўся на самы тоўсты сук, а ўжо з сука саскочыў на другі бераг затокі. Ішоў сцежкай ля вады, ля агародаў, натрапіў на невялікі драўляны мосцік.Здавалася, што далей будзе нешта накшталт неабжытага вострава. А сталася так, што я вярнуўся ў цэнтр горада.

Аднак жа, цуд мяне не мінуў. Тут, на галоўнай вуліцы Сянно, там, дзе яна спускаецца да возера, струменіць, цячэ з крыніцы жывая вада. Пульсуе чыстым моцным струменем, імкне вякамі, тысячагоддзямі, бадай, з моманту ўзнікнення свету, з самых біблейскіх часоў.

Называецца гэты першабытны цуд "крыніцай-капліцай". Назоў такі дадзены таму, што над серабрыста-блакітным струменем, што пульсуе з-пад ніштаватага ўзгорка, можа, былога гарадзішча, пабудавана цагляная спаруда-капліца. Надпіс на сцяне спаруды сведчыць, што "крыніца-капліца" ёсць помнікам прыроды рэспубліканскага значэння і ахоўваецца дзяржавай.

Кажуць, святое месца пустым не бывае. Што праўда, то праўда. Увесь час ідуць да крыніцы людзі. Хто з чым: мясцовыя жыхары з вёдрамі, падарожнікі з бутэлькамі. А я напіўся гаючай сцюдзёнай вады з прыгаршчаў.

Адна мясцовая жанчына прыйшла сюды з унукамі. Сказала, што ўсё жыхцё п'е ваду з гэтай крыніцы. Ад усіх хваробаў дапамагае гаючы напой.

— Дык, значыць, святая тут вада? — пытаюся я.

— Дзіва што святая! — адказала жанчына.

— Дык трэба над капліцаю крыж паставіць.

— А можа, нават і царкву, — падхапіла жанчына.— Вунь там, на гары...

Я моўчкі згадзіўся, сеў на лаўку пад старасвецкімі ліпамі. Не так хацелася адпачыць, як асэнсаваць дзівоснае імгненне вечнасці. Перада мной вялікае прыгожае возера Сенненскае, у якім таксама жывая гаючая вада роднай зямлі.

Хай жыве першабытны цуд! Хай прычашчаюцца людзі святой крынічнай вадой, каб ратавалі сябе і берагчы сваю Бацькаўшчыну!

*Сянно - Стоўбцы*



# У воблаку бэзавых мрояў

## Кветка вясны і ўспамінаў вяртае нас на радзіму, на сцежкі забытых куткоў, на замчышчы і пагосты

*Часлаў Булат*



Каму з нас не мроіцца бэз?

Гэтае дрэва-куст ці не блізкае ад маленства кожнаму беларусу: расло за вакном ці ля ганку дома, у двары школы або каля брамкі суседа, побач з капліцай ці крыжам на ўскрайку сяла. Яго ламалі каля дарог, на скрыжаваннях, на рэштках былых сядзібаў, у лесе, у парках і скверах. Ставілі ў букетніцы і збанкі, дарылі каханым, свянцілі ў царкве, неслі на радаўніцу, каб пакласці на памінальны абрус.

Бэз мы любім яшчэ таму, што ён зацвітае ў асалодную веснавую пару, калі абноўленая прырода шчодра дорыць чалавеку сваю красу: глядзі, дыхай, радуйся! Нават хочацца запыніць гэты час, сказаць вясне ўслед за паэтам: "Не адыходзь, пабудзь!"

Зрэшты, нацешыцца з бэзавага свята, якое прыходзіць на нашы вулкі, асабліва сельскія, часу багата. Бэз цвіце досыць доўга, ад двух да трох тыдняў. Звычайна гэта другая і трэцяя дэкады траўня. Але чысцінёй і свежасцю кветак радуюць першыя дні. Пах стаіць салодка-празрысты, ап'яняе з раніцы да вечара. Пад цёплым сонцам зеленеюць гоні, светлаю зеляніной ахінаюцца вербы, клёны, ліпы, бярозы. У кронах не змаўкаюць птушкі, ладкуючы гнёзды.Чуваць салавей. Пачынае буяць трава, і гаспадар ужо аглядае касу, прымяркоўваецца зрабіць першы ўкос.

А бэз тымчасам цвіце і пахне.

Ломяць яго па звычцы няшчадна, як бы не шкадуючы, са смакам, акунаючыся ў ягоную свежасць і пах. Ёсць свой прытоены сэнс у бязмежнасці і даступнасці карыстання гэтым дабром, гэтым багаццем, якое вось проста так нарасло і дорыць людзям цэлы акіян пяшчоты і ласкі. Усе, асабліва дзяўчаты, любяць пашукаць у гронках так званае "шчасце"— кветку, у якой замест чатырох загнутых пялёсткаў – цэлых пяць, шэсць, восем і больш. Нярэдка, калі знаходзяць, прыкладваюць да сэрца, засушваюць паміж кніжных старонак, або асмельваюцца нават праглынуць. Абяцанага шчасця так хочацца прычакаць!..

*Кветкі цёмна-ружовыя з лілаватым адценнем, сярэдніх памераў (2 см), духмяныя. Суквецці сабраныя з двух пар пірамідальных, сярэдняй велічыні (18 см вышынёю) мяцёлак. Зацвітаюць спакваля ў сярэдзіне траўня.*

*Характарыстыка-апісанне гатунку "Бер`е" (Berier).*

Там, дзе кветка да густу здавён, шануецца традыцыя сплятаць з бэзу вянкі, упрыгожваць імі жыллё, рабіць крыжыкі, утыкаючы кветачка ў кветачку, а пасля засушваць і абвешваць сцены пакояў і г.д.

Ёсць меркаванне, што нідзе бэз так шыкоўна-багата не цвіце, як у Швецыі і Нарвегіі. Гэта звязана з паданнем, паводле якога аднойчы "багіня вясны набрала поўныя прыгаршчы лілёвых сонечных промняў і пачала кідаць на кусты ды палі Скандынавіі, і куды яны патраплялі, там цэлымі сотнямі, цэлымі тысячамі выраслі дрэвы з паўнакветнымі духмянымі гронкамі".

Увогуле ж бэз – іншаземец. Ягоная радзіма – Малая Азія, Персія, адкуль ён патрапіў да нас толькі ў XVI стагоддзі, больш дакладна ў 1562 годзе, калі адзін з гатункаў быў завезены ў Вену з Канстанцінопаля. Прыкладна ў гэты ж час, відаць, бэз перасек і межы Англіі, бо апісваючы парк любімага загараднага замка каралевы Лізаветы – Нонсеч, разведзенага яшчэ падчас царавання Генрыха VIII гаворыцца, што там было некалькі мармуровых басейнаў і вакол аднаго з іх расло шэсць кустоў

## КАНТРАПУНКТ CONTRAPUNCT





*Фота (на старонцы): Аляксандр Гутоўскі*

*З цыкла "Пад небам Бацькаўшчыны"*

бэзу, якія надавалі месцу адметнасць ды вельмі прыемна пахлі.

І хоць на гэты час бэз заставаўся яшчэ вялікай рэдкасцю ў Еўропе, неўзабаве, праз гадоў сорак не было сада ці парка, дзе ягоны водар не дарыў бы асалоду, не радаваў закаханых, не растуляў сэрцы рамантыкаў.

Бэз не патрабаваў выключнай глебы, а неўзабаве пацвердзіў і высокую ўстойлівасць да маразоў сярэдняй Еў-ропы. Яго паўсюль палюбілі. Ён разрастаўся перш-наперш там, дзе чалавек прагся рабіць свае месца прывабным, адметным. Цяжка ўявіць без бэзавых зараснікаў замкі ў Міры, Нясвіжы, Ружанах, Гальшанах, шматлікія багатыя памесці, двары, гарады і мястэчкі Літвы-Беларусі.

Калі на былых так званых панскіх сядзібах, ад якіх засталіся падмуркі ці іншыя рэшткі, мы сёння сустракаем кусты бэзу, можна з пашанай пакратаць старую кару і лісце ды лепш прыгледзецца – дрэвам нямала гадоў.

У старой кнізе я прачытаў пра

*Кветкі чыста-белыя з тычынкамі на адным узроўні з вяночкам, нескладаныя, сярэднія (2 см), духмяныя. Суквецці буйныя, сабраныя з двух пар вузкапірамідальных мяцёлак. Цвітуць буйна. Гатунак вельмі эфектны. Зацвітае ў сярэдзіне траўня і цвіце да пачатку чэрвеня.*

*Характарыстыка-апісанне гатунку "Мары Легрэ" (Marie Legraye, 1840-1879).*

бэз берлінскага шпіталю "Charite", якому на пачатку стагоддзя было за 100 гадоў. Ён так разросся, што адно тры кусты займалі месца ў сотню крокаў па акружнасці і 35 – у дыяметры.

Яшчэ адзін драбок досведу – з народнага лекавання. Спытай — і мудрыя бабулі падкажуць, што лісце бэзу валодае выключнай гаючасцю; ім прыкладваюць да раны, якая доўга не зажывае. Дзеянне леку ўражвае, толькі прыкладваць лісцікі трэба адразу знятымі з галінкі і добра абмытымі, а завялыя мяняць на свежыя.

Самую вялікую калекцыю бэзу мае сёння Цэнтральны батанічны сад у Мінску (22 віды, шэсць формаў і разнавіднасцяў, 127 гатункаў), а таксама гаспадарка ў Лошыцы, Горацкая сельгас-акадэмія, батанічны сад БДУ і інш.

Беларускія гатункі *бэзу звычайнага*, які ў нас добра прыжыўся і прапануецца да распаўсюджвання, падзеленыя паводле афарбоўкі суквеццяў на некалькі груп. Гама колераў вельмі багатая: белыя; блакітныя, лілёва-блакітныя і лілёвыя іншых адценняў; ружовыя, лілёва-ружовыя і пурпурова-ружовыя; пурпуровыя і фіялетавыя. Пералічэнне вартая таго, бо толькі адна з названых груп, у якую сабраны *белы бэз* налічвае ажно 12 "душаў" гэтага сямейства. Прычым характар іх адрозны: з моцным і меншым пахам, рознымі адценнямі гронак, малюнкам і памерамі пялёсткаў, тэрмінамі цвіцення і інш. Прыкладна столькі ж гатункаў і ў астатніх групах.

Гатункі бэзу звычайнага растуць у добра асветленых месцах, лепш на ўрадлівых і не надта вільготных глебах. Разрастаецца хутка, дае шмат пасынкаў, утвараючы новыя і новыя зараснікі. Маладняк трэба штогод прарэджваць, высякаць лішняе, шануючы старыя здаровыя дрэвы.

Бэз надзвычай прыдатны для высадкі ў скверах, садах і парках. Ім шырока скарыстоўваюцца як для адзіночных, так і групавых алейных пасадак. Кусты бэзу хораша выглядаюць, напрыклад ўзгорках мурожных схілаў, побач са сцежкай, на рагу хаты. Гэты досвед шматразова перайманы пакаленнямі беларусаў. *"Кветка старасвецкіх шляхецкіх гнёздаў"* сёння расцвітае ці не ў кожным сельскім двары. Яшчэ, кажуць, бэз – кветка ўспамінаў. Пра родны бацькоўскі дом, дарагую вуліцу, гады маладосці.

Галінка бэзу – як многа!...

**Замест пасляслоўя**

Часам, гледзячы, з якім імпэтам мы ломім букеты бэзу, думаеш: вось бы так і садзіць! Бо калі аддаць пашану справядлівасці, бэзу вакол нас усё менш. Як і жывой прыроды наогул.


SUMMARY

***A**bout lilac, one of the most widespread and well-loved shrubs in Belarus. The author speaks of them as a kind of treasure which is both familiar and beloved.(p.8-9)*

***T**he newspaper again brings up the important topic of timber plants and hunting reserves located in Belarusian national parks and around us. (p.10)*


# Ацалелыя рэшткі прыроды як поклад пакінь для нашчадкаў





**пеўчы дрозд каля гнязда.*

**заранка ў клопаце: птушанят, якія толькі што вылупіліся, трэба сагрэць*





**рэдкая птушка, шэры журавель. А кожнае яйцо ў покладзе гэта заўтрашні ўзмах крылаў*

МЕСЯЧНІК ЦІШЫНІ

МАЙ другая палова – першая палова ЧЭРВЕНЬ

## З днём народзінаў, вольнае птаства!

**Фундатар экасюжэта**

Нацыянальная авіякампанія "БЕЛАВІЯ"
Belarusian Airlines BELAVIA

**220004 г. Мінск, вул.Няміга,14**
**тэл. (017) 229-28-38**

 

# НАБАТ

TOCSIN

## Экацыд беларускага народа працягваецца:

### праз брудны харч, атручаную ваду, дрэннае паветра, —

сцвярджае адзін з вядучых антраполагаў Беларусі, правадзейны сябра Міжнароднай акадэміі экалогіі, доктар біялагічных навук **Аляксандр Мікуліч.**

Смяротнасць на вёсцы, гаворыць ён, перавысіла нараджальнасць сельскіх жыхароў ужо на пачатку 80-х гадоў. Дэмаграфічныя нажніцы зачапілі перш-наперш мужчын. Ёсць дзве гіпотэзы гэтай з'явы – ужыванне нікаціну і алкаголю і ўздзеянне мноства новых хімічных рэчываў, да якіх чалавечы арганізм эвалюцыйна не адаптаваны.

Прыкладам, вясковыя калодзежы забруджаны нітратамі з-за нерэгуляванага ўжывання мінеральных тукаў на калгасных палетках. Людзі п'юць ваду з вялікім перавышэннем гранічна дапушчальнай канцэнтрацыі гэтага небяспечнага рэчыва. Як вынік – малакроўе ў дзяцей і анкалагічныя хваробы ў сталым узросце.

Разбураюцца аптымальныя для жыццядзейнасці і біялагічнай разнастайнасці біягеацэнозы, паяўляюцца новыя экалагічна залежныя хваробы.

Здароўе людзей катастрафічна пагаршаецца.

*Анонс! Падрабязна з пазіцыяй вучонага і ягонымі аргументамі чытачы пазнаёмяцца ў наступным нумары.*

## Глядзіце ў ваду!

У тым, што ў рэках няма жыцця, што іхнія жыццядайныя жылы парабіліся сцёкамі сённяшняй прамысловай клаакі,– факт. Але яго ўпарта не прызнае Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Яно, як ніхто іншы, валодае дастатковымі звесткамі, каб гаварыць пра гэта аргументавана і пераканальна, біць у набат, запабягаць чарговы скачок у бездань, знаходзіць шляхі паратунку і выбару.

Аднак яно маўчыць.

Гэтае маўчанне каштуе нацыі вельмі дорага. Мы штодзень пазбаўляемся таго, што прырода стварала вякамі. Мы набываем хваробы, знясільваем наш генафонд, рызыкуем самым каштоўным – жыццём людзей, здароўем нашчадкаў.

Кішэннае міністэрства патрэбнае магільшчыкам беларускага народу.

## Хто кажа праўду

Падчас прэзентацыі "паказушнага" відэабуклета *"Вялікі лес"* 31 сакавіка гэтага года дырэктар Нацыянальнага парка "Белавежская пушча" Васіль Жукаў пры ўсім людным сходзе заявіў літаральна наступнае: *"Хто скажа, што ў Нацыянальным парку спілавана хоць бы адно жывое дрэва?.."* Гэтыя словы былі сустрэтыя насцярожаным маўчаннем прысутных. Яно зразумела. Бо нават калі ў гэтым рытарычным пытанні ёсць праўда, дык яна ж нічога не мяняе. Занапад "вялікага лесу" працягваецца. Нягледзячы на тое, што і кіназмоўшчыкі, і многія выступоўцы, і спадар Жукаў спрабуюць пераканаць грамадскасць у адваротным.

Рубрыка падказана чытацкай поштай. Назва гаворыць сама за сябе: не бойцеся, біце ў набат, вяшчуйце!

# Лесанарыхтоўчыя ды лесапаляўнічыя тэндэнцыі нахабна і цынічна завалодваюць дзейнасцю на асабліва ахоўных лясных тэрыторыях Беларусі



**У** сакавіку гэтага года газета "Белавежская пушча" падала запыт (паводле шэрагу канвенцый, якія падпісала наша краіна, такі ж запыт мае права падаць любы грамадзянін Беларусі) на імя начальніка ўправы ахоўных прыродных тэрыторый і лесапаляўнічых гаспадарак Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Лучкова з тым, каб атрымаць праўдзівую інфармацыю адносна размяшчэння на тэрыторыі нацыянальнага парка "Прыпяцкі" аб'ектаў вытворчасці. Рэч у тым, што апошнім часам грамадскасць насцярожана сочыць за разгортваннем "лесапаляўнічай" гаспадаркі дзейнасці там, дзе прырода павінна перш-наперш ахоўвацца, дзе да яе больш дарэчы багавейліва-пашанотнае стаўленне, чым прамыслова-спажывецкае. Рэдакцыя запыталася ў А. Лучкова, **якія** вытворчыя аб'екты размешчаны на тэрыторыі НП "Прыпяцкі" або ў яго прылеглых частках, а таксама прасіла пазначыць іхнія **сыравінныя крыніцы** (прыкладам, для вырабу паркету).

Адказу ад кіраўніка ўправы рэдакцыя не атрымала. А.Лучкоў даручыў гэта зрабіць генеральнаму дырэктару НП "Прыпяцкі" Мікалаю Бамбізе. Той і падпісаў ліст, адрасуючы яго А.Лучкову. З ліста даведваемся, што рыхтаваў адказ намеснік дырэктара па навуцы Анатоль Углянец. Такім чынам, біёлаг А.Лучкоў не адказаў рэдакцыі на запыт і не паставіў свой подпіс пад інфармацыяй сваіх падначаленых — знаёмая бюракратычная хітрыка, з дапамогай якой высокапастаўленыя службоўцы пазбягаюць публічнасці і здымаюць з сябе пэўную ношу адказнасці.

Чытаем ліст: *"... паведамляем, што на тэрыторыі парка дрэваапрацоўчых цэхаў няма. Сучасны дрэваапрацоўчы цэх уведзены ў эксплуатацыю ў IV квартале 1997 года ў эксперыментальнай лесапаляўнічай гаспадарцы "Ляскавічы", якая размешчана больш на поўнач Нацыянальнага парка, аб чым шырока паведамлялася ў прэсе.*

*Сыравіннымі крыніцамі гэтай вытворчасці з'яўляюцца: 1)лясны фонд эксперыментальнай лесапаляўнічай гаспадаркі "Ляскавічы" – спецыяльнага структурнага падраздзялення выключна вытворчага накірунку; яно створана на плошчах, якія ніколі не ўваходзілі ў склад асабліва ахоўных тэрыторый, дзеля таго, каб зніць вытворчы прэс з запаведных экасістэмаў; 2)лясны фонд прылеглых лясгасаў."*

Гэты ліст рэдакцыя пакуль што пакідае без уласнага каментарыя. Хоць варта ўважыць на тое, што адказам М.Бамбізы--А.Углянца кіраўнік управы не проста "задавальняе" запыт рэдакцыі, а "спрыяе" дакладнай арыентаванасці газеты адносна вострай прыродаахоўнай праблемы, аб чым прасіла рэдакцыя.

"Праліванню святла" на сітуацыю ў "Прыпяцкім" у пэўнай меры дапамагла публікацыя ў газеце "Запаведнік" (Расійская Федэрацыя) пад красамоўнай назвай **"Кашмар над Прыпяццю"** (№2,1998). Дазволім колькі цытатаў, якія істотна дапаўняюць інфармацыю, якую мы атрымалі з "падачы" Аляксандра Лучкова.

*"З утварэннем эксперыментальнай лесапаляўнічай гаспадаркі з'явілася зручная шырма для прыкрыцця беспарадкаў, што чыняцца на запаведнай тэрыторыі. Дарэчы, гаспадарчая дзейнасць не абмяжоўваецца толькі нарыхтоўкай і перапрацоўкай лесу. Так званыя падсобныя гаспадаркі па сваіх маштабах даўно перараслі сам запаведнік. "Прыпяцкі" сёння – гэта не толькі эксплуатуемыя лясныя надзелы, гэта магазіны і бары, гэта дрэваапрацоўчыя цэхі, вялізныя гаражы і шматсільны парк аўтамабільнай тэхнікі, гэта мясаперапрацоўчы і хлебны мінізаводы, гэта птушкаферма, гэта цэлы калгас і шмат чаго яшчэ."*

*"У 1997 годзе распачата будаўніцтва буйнога дрэваапрацоўчага цэха, дзе пастаўлена абсталяванне італьянскай фірмы "А.Коста". Плануецца, што імпартная лесапілка зможа перапрацаваць да 50 тыс. кубаметраў драўніны ў год. На чарзе і паркетная лінія (за мяжой ведаюць кошт беларускага поймавага дуба). Праектная магутнасць абсталявання разлічана на штомесячны (!) выпуск 1400 кубаметраў паркетнага рэзіва, 500 – падлогавай дошкі, 200 – вагонкі і 600 кубаметраў альховай дошкі."*

*"Паводле паведамленняў у афіцыйным друку, кіраўнік Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта І.І.Ціцянкоў і ягоны калега — дырэктар НП "Прыпяцкі" плануюць цалкам высекчы і зноў засадзіць лясны абшар Прыпяцкага запаведніка. Чым не мічурыншчына? Новыя "мічурынцы", праўда, ...маўчаць пра тое, што галоўнае адрозненне запаведніка ад лясгаса ў тым, што там забаронена гаспадарчая дзейнасць, што запаведны лес тым і каштоўны, што ў ім няма ані высечак, ані ўзнаўляльных пасадак, інакш – гэта ўжо не запаведнік і нават не нацыянальны парк, а банальны лясгас"* (канец цытавання).

Чытач цяпер зможа параўнаць і зрабіць выбар на карысць ісціны. "Незалежны эколаг М. Козел" (аўтарскі подпіс пад артыкулам "Кашмар над Прыпяццю") жыве ў "Прыпяцкім" і выбар, як бачым, зрабіў. Ён ударыў у набат, каб пра сённяшнія тэндэнцыі эка-запаведнай палітыкі ў Беларусі ведалі як мага больш людзей. Калі гэты набат не пачуе шырокая грамадскасць, экспансія "лесапаляўнічага гаспадарання", можа ўходаць тую дарагую спадчыну, якую цанілі і шанавалі з веку ў век, а гэтыя элементарна і цынічна прададуць яе разам з усёй дзяржавай. Гаворка тычмасам ідзе пра зберажэнне апошняга – менавіта запаведнага, так званага "асабліва ахоўнага". І, зразумела, не толькі ў былым Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведніку, але і ў Белавежскай пушчы, і ў Бярэзінскім біясферным запаведніку – усюды, дзе ёсць "бревно", кажучы жаргонам мацёрых гаспадарнікаў.

Відаць, таму і не паставіў свой подпіс пад адказам у рэдакцыю колішні акадэмічны вучоны Аляксандр Іванавіч Лучкоў. Затое стаіць прозвішча "галавы навукі" Прыпяцкага запаведніка. Зразумець яго неяк можна...

Цяжка зразумець дзяржаўных мужоў ад экалогіі ў высокіх крэслах, у тым ліку Мінпрыроды, ці тую ж навуку ў сталічных кабінетах. Лесапаляўнічыя апетыты цяперашняй адміністрацыі бяруць іх за грудзі, а яны робяць выгляд, што гэта іх не датычыць. Датычыць. Напрыклад, добра вядома, што там, дзе службы адміністрацыі збіраюцца браць "бревно", планавалася размяшчаць заказнікі, менавіта – каб не ціснуць на запаведнік, ствараць вакол яго сапраўды прыродапашанотны рэжым, а не выкалочваць "ценявыя" прыбыткі, ствараючы прамзону. Але мужы маўчаць, даказваючы грамадству, што яны, у адрозненне ад "незалежнага эколага", **няздольныя на ўчынкі.**

***Дзедзіч***



 

# КОЛА
CIRCLE



## Цяжка казаць словы роспачы, калі так мала надзеі...

Добры дзень, паважаныя "белавежцы"!

Мне 15 гадоў, пра вашу газету я даведаўся год таму; першыя нумары купіў у Нясвіжскай кнігарні, а нядаўна скарыстаўся магчымасцю падпісацца на "Белавежскую пушчу".

Адразу хачу выказаць словы падтрымкі вашаму выданню, бо ведаю, што яны вам патрэбны, як і ўсім, хто ў цяперашні час займаецца Святой Беларускай Справай. Пакуль ёсць такія людзі, як вы, беларуская зямля не застанецца без абаронцаў.

Я жыву ў вёсцы Мазалі. Услухайцеся ў гэтую, дзякаваць Богу, не перакручаную бальшавікамі назву – яна распавядзе пра часы, калі народ верыў Зямлі, любіў Зямлю і шанаваў яе, кладучы ў яе абшары працу сваіх рук.

Што казаць, людзі на маёй Случчыне сапраўды былі даўней працавітыя ды руплівыя. Дзе ж падзелася зараз тая павага да зямлі-карміцелькі? Усё вакол калгаснае, усё вакол маё... А мо – нічыё?

Продкі тых сялян-працаўнікоў, якія мазалямі адстойвалі свае правы карыстацца з багаццяў прыроды, ця-пер і не зважаюць, што маці-зямля пустуе, зарастае бур'яном, пасыпаецца хімікатамі...

Хіба гэтага мала, каб ніцма ўпасці перад нябёсамі, молячы пра ўратаванне? Ды няма каму падаць, няма каму ўкленчваць: вочы цяперашніх сялян залітыя гарэлкай, старыя ж ці пайшлі ці паціху сыходзяць у іншы свет...

У Мазалі я пераехаў, калі мне было 3 гады: да гэтага наша сям'я жыла ў вёсцы Старцавічы (цяпер, па-бальшавіцку, — Знамя). Праўду кажучы, сэрца маё, хоць і пражыў 12 гадоў на новым месцы, цягнецца туды, дзе нарадзіўся, дзе пахаваныя мае продкі па маці. Расказваць пра любыя мне мясціны шмат не буду: кожны, хто знаёмы з творчасцю Паўла Андрэевіча Місько, зямляцтвам якога я дужа ганаруся, можа добра ўявіць маю родную вёску, якой яна была раней і якой пасля сталася. Даведацца пра вірлівую і звілістую калісьці рэчаньку Лакнею, сточаную нажом меліярацыі, пра спустошаныя, а калісьці зялёныя і травяныя лугі, пра высечаныя наўкола лясы. Што я магу дадаць ад сябе да апавядаў пісьменніка? Хіба што тыя магутныя вербы, якія раслі ўздоўж вуліцы на поплаве, — першае маё дзіцячае ўражанне. Зараз іх засталося дзве ці тры – астатнія парэзалі на дровы, ды і тыя высыхаюць...

Цяжка казаць словы роспачы, калі так мала надзеі. Жыве Беларусь!

**_Дзмітрый Бялькевіч,_**
*вучань 10 класа*
*в. Мазалі, Салігорскі р-н*

*Шаноўны Дзмітрый!*

*Дзякуй за ліст, за падтрымку нашага выдання. Сваёй чаргой мы хочам падтрымаць і цябе. Роспач павінна прайсці, не ўсё безнадзейна. А вось выказаць гэтую роспач абавязкова трэба — дзеля таго, каб лепш усведамляць сваё месца і сваю ролю ў выратаванні Айчыны-бацькаўшчыны. Дай Бог такой здольнасці і табе, і тваім землякам-аднагодкам. Жыве Беларусь!*

*І яшчэ. Паглядзім на паштовыя знакі, што ўпрыгожваюць канверт, у якім Дзіма даслаў нам свой ліст. Вельмі вымоўны, ці не праўда? Што па-ранейшаму ўшаноўваецца і што хуценька схавалі. Нават назва вёскі напісаная аж праз два **о**. Затое гістарычны герб новай Беларусі адпрэчылі і прыбралі. А на добры лад, шанаваць і берагчы трэба.*




## Часам прыроду жывую кладуць у магілу, а людзі маўчаць, быццам гэтак і трэба

Дзень добры ўсім, хто робіць і дапамагае рабіць газету "Белавежская пушча"!

На слове *"рабіць"* я знарок запыняю ўвагу, бо ведаю, колькі чаго робіцца на здзек прыродзе і колькі чаго не робіцца, каб не даць абадраць з яе апошнюю сукенку.

Ваша газета *робіць* вельмі добрую трудную справу – настойліва павяртае людзей да паняцця Прырода, спрабуе дабудзіцца да моцна сячых. Увогуле, такіх, хто бачыць прыгожае і разумее ў гэтым вялікі сэнс, на жаль, вельмі мала. Я б сказаў, менш і менш. Адсюль і горкі вынік. Менш людзей, якія здольныя заступіцца за прыроду, пайсці пастукацца ў дзверы ўлады, у рэшце рэшт падняць школу, сельсавет. Шмат зняверaных, але шмат і раўнадушных, сляпых, нячулых. Часам прыроду жывую кладуць у магілу, а людзі маўчаць, быццам гэтак і трэба.

Вы напісалі пра галандскіх "зялёных", якія шукаюць ратунак праз суд. Што да нас, тут я маю надзею хіба што на моладзь, на адукаваную частку грамадства.

Але хто адсудзіць сёння тое, што так нахабна марнуецца, зводзіцца, прадаецца? Перш-наперш лес. Нядаўна мой былы аднакласнік па тэхнікуме запрасіў мяне на родную Магілёўшчыну, дзе вёскі Вяззе, Краснае, Ліпень.

Што мы пабачылі! Побач з селішчам (здаецца, гэта была вёска Галынка) трапілі на высечкі лесу. Так секчы лес нават вораг, які ішоў да нас калісьці з агнём і жалезам, не рызыкнуў бы адразу. А гэта ж не абы-які лес. Выносны, велічны, багаты на раслінасць. І надзвычай стары. Такія лясы пашукаць трэба. Іх па ўсім свеце ўжо ашчаджаюць, берагуць, быццам кветнік. Тое, што мы ўбачылі, можна было параўнаць з разгулам сляпой стыхіі. І толькі сляды тэхнікі, асмалкі магутных пнёў, петлі выбітых рытвінаў выдавалі, што не служба нябесная пагаспадарыла тут, а чалавек-гвалтаўнік.

Няма сумнення, што праз 10-15 гадоў ад гэтага гістарычнага лесу застанецца змарнелы лясок, парослы крапівою. І ўнукі тых людзей, якія сёння жывуць тут, не паспеюць пабачыць ранейшай красы і велічы.

Таму лічу, што вашыя намаганні вартыя ўсялякай падтрымкі. Рабіце газету, як вы гэта можаце – Ваша разора прыкметная. У добры час, сябры!

**_Васіль Рахуба,_**
*радыемеханік,*
*Баранавіцкі раён.*

## Гэта бачу я сама...

Паважаная рэдакцыя!

Я вучуся ў 7"Г" класе 186-й мінскай школы і жыву ў мікраараёне Шабаны. Пра газету "Белавежская пушча" даведалася ад настаўніцы, а таксама ў дзіцячай бібліятэцы нашага мікрараёна. Цяпер вырашыла падпісацца, каб газета, якая мне падабаецца, прыходзіла нам дадому.

У газеце мне даспадобы "Кола", дзе вы друкуеце лісты чытачоў. Я хачу, каб мой ліст быў таксама надрукаваны.

Рэч у тым, што наш мікраараён лічыцца экалагічна небяспечным. Пра гэта часта чуеш ад бацькоў, суседзяў, у школе. Гэта бачу і я сама: шмат жылых і вытворчых будынкаў, машын, пылу, курodыму, а так мала дрэў, зеляніны... Што залежыць ад мяне, я буду ўсё рабіць, каб зберагчы прыроду Беларусі і прымножыць яе багацці. Я заўсёды буду браць удзел у азеляненні вуліц, парадкаванні двароў, паркаў, прыгарадных лясоў. Але хачу папрасіць праз газету, каб наша дзяржава зрабіла ўсё неабходнае для аздараўлення мікраараёна, у якім я жыву.

**_Алена Курбыка,_**
*г. Мінск, Шабаны*

## Ліст з Украіны

Двічі доля подарувала зустріч з "Беловежською пущею" – чарівним світам білоруської природи, співочою мовою і таленовитим народом...

На мий неупереджений погляд "БП" на сьогодні – найкраще з відомих мені екологічних видань пострадянської спільноти. Особисто мені імпонує все – і структура та підбір матеріалів, і дизайн, і ліричність... Рано ще співати "за упокой" білоруській мові.

Знайомство з "БП" (вдалося дістати в Київському представництві ISAR ) спонукало до видання бюлетня "Свята справа", який я Вам надсилаю.

Про себе: Чегорка Петро, заступник директора з наукової роботи Дніпровсько-Орельського заповідника, орнітолог-теріолог.

*Шаноўны калега і сябра Пятро!*

*Дзякуй за такі ўхвальны, сяброўскі ліст. Тое, што ён напісаны па-украінску, прыемна ўдвая.*

*Дзякуй за "Святую справу", якую Вы пачалі выдаваць. Нам дарагая Вашая згадка, што ладзіць выданне Вас "спанукала" знаёмства з газетай "Белавежская пушча".*

*Думаем, і ўдзячнасць за Ваш водгук, і пажаданне плёну ў працы на "Святую справу" падзяляюць таксама чытачы нашай газеты.*

*Мы рады адчуваць плячо сяброў, чуць мілагучнае вечнае ўкраінскае слова.*

*З любоўю да ўлоння — рэдактар, аднадумцы.*

SUMMARY

**_"Sometimes nature is buried alive and people say nothing, as if it couldn't happen any other way" - writes one our readers. However, one country boy has decided to tell us about the dying Lakneya stream where he lives._**

# Вяшчальны хор, вясновы звон

**Сярод мноства жывых істотаў, што сялібуюць на зямлі, ёсць і такія, пра якіх мы нічога не чулі і нават не здагадваемся, што яны ёсць. Але жабы да іх не належаць – гэта факт.**

**Віталь Прошча**

*Бывала, яны пазіралі на мяне тужліва і спачувальна*

Нядаўна ў "vox populi" адной з газет дзяўчына-студэнтка прызналася, што больш за ўсё баіцца гадзюкаў і жаб. Сказала, відаць, міма-ходзь, бо ёй – маладой, сімпатычнай – ёсць каго ды чаго баяцца без гадзюк. І ўжо тым больш – зусім бяскрыўдных жаб.

Хутчэй за ўсё нарадзілася дзяўчына ў горадзе, на прыродзе бывала рэдка.

А каб не баяцца, трэба ж расхінуць траву ды паглядзець той істоце ў вочы, пра-канацца ў яе ціхамірнасці, зразумець яе страх перад табою, велічна ўсемагутным...

На жаль, жабаў пачынаюць часам баяцца і не любіць з маленства, і гэты стэрэатып, накінуты на дзіцячы розум, застаецца ў чалавека надоўга, разбураючы далікатны, дзівосны малюнак прыроды і разам з ім – такія ж далікатныя повязі чалавека з на-вакольным светам. Бо жаба ёсць нашым сябрам, які служыць нам адвечна і бяздакорна, не парушаючы нашыя сферы, а толькі мацуючы іх, насуперак нам самім. Дык навошта ж сябра баяцца? Або не любіць, старацца?

Прызнаюся, у мяне да жаб дужа даўняя сімпатыя. З дзяцінства я не меў аніякіх азмрочаных сваім ці чужым досведам стасункаў з гэтымі мілымі істотамі родных ваколіц. Можа, хіба толькі спачуваў ім, бо, жывучы амаль пад буслянкай, я часта бачыў, як бацян, падкідваючы, глытаў іх, балотных сястрычак, адну за другой. Гэты "цырк" дагэтуль стаіць у вачах, бо назіраць даводзілася з дзесяці-пяці метраў.

На рыбалцы, калі клёву не было і я мусіў без жаднага ўлову збірацца



** Рэдкі здымак, ці не так? Шкада, застаецца толькі здагадвацца, які "міг удачы" злоўлены аўтарам кадра: бліскучы ланцужок, што цягнецца за лапкай квакшы-акрабаткі, нагадвае і водны струменьчык, і пасачак ікры... Квакша — дрэвалазная істота, а спрыту ёй надаюць лапкі, якімі яна прысмоктваецца да вертыкальнай паверхні. А яшчэ звернем увагу на памеры дрэўніцы. На здымку яны большыя за натуральныя амаль што ўдвая.*

*Фота: з архіва "Неруш-прэс"*



**апалонікі ля берага вадаёма. Трэба выжыць! Але далёка не ўсе яны перавернуцца ў жабак.*



**зялёная жаба цудоўна маскіруецца ў лугавым разназёле каля вады. Гэты від можна з поўным правам назваць канцэртным — за самыя звонкія харавыя спевы. І ў дадатак — адзіным ядомым. Прынамсі, у Еўропе. Вы, часам, не каштавалі?*

*Фота: Міхал Козел (Тураў)*

дамоў, яны з-пад берага, ці — яшчэ цікавей!— з шырокага ліста лілеі пазіралі на мяне тужліва і спачувальна.

А іхнія харальныя спевы цёплымі красавіцкімі вечарамі рабілі свет непаўторна прыгожым, поўным жыцця. На жабінае шматгалосае кваканне я, напэўна, прамяняў бы многіх канцэртных салістаў, не толькі эстрадных, але і оперных. Вядома ж, я хачу сказаць зараз не пра салістаў, а менавіта пра жаб ды пра нашую настальгічную цягу да адвечных вячэрніх канцэртаў.

Паводле нейкіх накінутых мерак, жаба шмат каму ўсё яшчэ падаецца непрыгожай і гідкай. Аднак, разабраўшыся, гэта не так – яна хутчэй непаўторная. Калі прыгледзецца, на ёй прыгожая намітка з крапінак, пасачкаў, плямак. Часам жаба вельмі пацешная. Скок ды скок... Пусціцца на ўцёкі — адразу не ўхопіш. Міжволі ўсміхнешся яе спрыту і ўвішнасці, нязломнай волі не здавацца і ўберагчыся. А ў самыя крытычныя моманты жаба "адбіваецца" белаю вадкасцю, якую вылучае з маленькіх пухіркоў на скуры. Што гэта такое, добра ведаюць каты і сабакі. Бо не раз апякаліся – "пацалункі" з жабай адчувальна раздражняюць слізістую паверхню.



**"эмігрантка" - чырвонакніжніца (чарацяная рапуха). Адметная тым, што не толькі скача, але і бегае як мыш. Фота: Міхал Козел (Тураў)*

Напэўна, не ўсе ведаюць пра жабу на паляванні. А гэта якраз доказ яе руплівай "стараннасці", каб быць нам карыснай: цяжка злічыць, колькі розных шкоднікаў яна паядае за адну ноч — вусеняў, слізнякоў, мух, камароў, іншых мошак. Нярэдка месцам паляўнічых хваляванняў становяцца дзялянкі пад электрычнымі ліхтарамі, на якія злятаецца машкара. Жабы тут як тут. Высочваюць, сцерагуць здабычу.

На жаль, і самі часта гінуць пад аўтамабільнымі коламі. Ліхтары, дарога, машына – гэты ланцужок сёння мае драматычныя стасункі ў дачыненні да жабаў.

Увогуле, дарогі, якія гвалтоўна пракладвае чалавек, асабліва насыпныя, з цвёрдым пакрыццём, часам становяцца як бы ўпоперак ізамінаюць адвечнаму руху прыроды.

Незабыўны для многіх, хто бываў у Белавежскай пушчы, дырэктар мясцовага музея Павел Міхалевіч распавёў мне аднойчы пра "даліну смерці" ... у сотні метраў ад музейных стэндаў. Рэч у тым, што цэнтральную сядзібу Нацыянальнага парка і вёску Камянюкі злучае шырокая цвёрдая дарога – ці то грэбля, ці то дамба, якая перараазе пойма-вую даліну ракі Лясной. Па гэтай дарозе ходзіць шмат рознай тэхнікі (тое ілюзія, што Пушча ёсць месцам для конных запрэжак ды ціхіх фурманак. На жаль, гэта далёка не так.) А паабапал дарогі — забалочаны ды парослы алешнікам луг. І вось у красавіцкія цёплыя дні, калі сонца шчадрэй пасылае долу праменні, мноства жабаў рушыць на асфальтавую паласу, дзе больш цяпла. Трэба бачыць гэтае абуджэнне, гаварыў мне Павел Кірылавіч. Гэты рух, гэтую плойму, што прыскакала пагрэць жываты на асфальце. Магчыма, была яшчэ адна прычына – блізкі вадаём размнажэння і жабы імкнулі туды. Лёгка ўявіць, якая сіла, якая нястрымнасць падаўжэння роду панавала над гэтым шэсцем. "А мы па іх — коламі грузавікоў. Не зважаючы... –


SUMMARY

*The authors write lovingly about frogs and their habitats, praising the melodious spring choirs of toads.*



басок суразмоўцы заціхаў. – Паверце, дарога рабілася чырвонай, і я назваў яе далінай смерці. Прасіў адміністрацыю спыніць рух аўтатранспарту, пакуль усё ўляжацца. Ды хто цябе паслухае!..”

Вясновая беларушчына будзе няпоўная нават у самых вымоўных формах, калі не чуць і не бачыць, не ўяўляць, як фарбы змяркання агучваюцца балотнымі акордамі і гэтую музыку-спеў прыроды ты вольны слухаць дзе-небудзь на ганку роднай сялібы да самых прыцемкаў. І гэта будзе таксама абуджэнне нашых душаў —насустрач вясне і прыродзе

***Іна Зеніна***

(Нацыянальны парк “Прыпяцкі”)

## *“Палескія царэўны”, – кажуць пра іх у народзе*

Пацешныя лупатыя істоты, яны трапілі нам на вочы ў самым раннім дзяцінстве. Спачатку бразготкі ля зыбкі, потым — героі казак, мультфільмаў. Казачная царэўна-жаба існуе у фальклоры многіх славянскіх народаў. І ёсць у гэтым нешта загадкавае ды сімвалічнае: перавяртанне зялёнай жабы ў цудоўную царэўну, перавяртанне хвастатага апалоніка ў зялёную квакшу.

Палеская вёска. Майскі вечар. Ціхі і цёплы. Недзе паблізу – возера ці балотца, сажалка або проста лужына вады. І непаўторны, ні з чым непараўнальны хор-звон. Дзесяткі, сотні жаб сышліся ў гэтыя берагі, каб падоўжыць адвечнае кола жыцця. Як шмат цікавага з таго, што дзеецца, мы не бачым! Праходзім міма і не здагадваемся пра тыя маленькія трагедыі, камедыі і фарсы, што ад-бываюцца ў гурце.

Вясной самцы самай прыгожай нашай жабы – квакшы хто як можа спрабуюць завабваць сяброўку. Адны гучным кваканнем абвяшчаюць ваколіцы: “Я тут!..” – заклікаюць сяброўак. Другія затаіліся і ціхенька сядзяць паблізу — чакаюць, калі ж з`явяцца зялёныя прыгажуні, прываблёныя голасным спевам: якая моцная надзея перахапіць у мітусні адну з іх! І цяжка сказаць, чыя тактыка будзе тут лепшай, каму больш пашанцуе: “гарластаму” ці хітраму “маўчуну”.

Прага жыцця часам уражвае. Аднойчы я са здзіўленнем знайшла ікру зялёных жабаў — слізістыя шнуры – у звычайнай лужыне ля асфальта. Бедалагі не знайшлі больш прыдатны вадаём, каб адкласці яйцы. Я была ўпэўнена: хутка прыгрэе сонца, лужына высахне і ікра, або апалонікі загінуць. Але на маё здзіўленне, з ікры ўсё ж вываліся апалонікі, а затым і маленькія жабы, трохі большыя за ногаць, яшчэ з рэшткамі хваста. Выйшлі з лужыны і “разбегліся” па навакольных зялёных прытулках.

Але канец бывае і нешчаслівы. Увесну шмат каляінаў і ям, якія спадманна завабліваюць жабаў, а пасля становяцца месцам іхняй пагібелі, у тым ліку пад коламі тэхнікі.

Усё лета на нашых агародах жывуць зялёныя і бурыя жабы. Харчуюцца шматлікімі безхрыбетнымі, паядаюць нават каларадскіх жукоў і, насуперак чуткам, ніколі не ядуць клубніцаў, бульбы або іншай расліннасці. Увосень, з прыходам халадоў, яны “раскватэроўваюцца” па норах, падвалах, ямах, часам залазяць пад падлогу ў хаце праз душнікі і застаюцца там да вясны. Часам, убачыўшы жабу ў падвале, дзе захоўваецца бульба, людзі, не ведаючы, думаюць, што жабы ядуць гародніну, грызуць клубні. Гэта несправядліва. Не ганьце і не ганіце жабу, калі яна папрасіла прытулку на час зімы. Пастаўцеся да яе як да бяскрыўднай суседкі, вартай вашай чалавечай спагады.

Мала хто ведае, што ў палескіх вёсачках ды мястэчках сустракаюцца 7-8 відаў земнаводных: жабы і трытоны. Для каго з нас гэта цікавыя жывыя істоты, героі мультфільмаў і казак, для іншых – штосьці гідкае і міфічнае, адным словам – “гады”. У адных гэтыя жывёлы выклікаюць цікавасць і павагу, а ў некаторых нават – жаданне забіць.

Дзе вытокі добрага і благога: адзін хапае спачатку камень, палку, пасля стрэльбу і — забівае, а другі старанна абыходзіць і не чапае? Бо ахоўваць жывёл – гэта перш за ўсё не чапаць іх у іхнім доме і не ўмешвацца ў іхняе “асабістае” жыццё.

Часам бачыш: падлеткі збіраюцца вакол сажалкі і камянямі цэляцца ў апалонікаў, выцягваюць іх на бераг, топчуць. А шасцігадовы хлопчык з плачам бяжыць да бабулі, каб яна накрычала на хлопцаў, не дала ім знішчаць апалонікаў, з якіх, ён гэта ўжо ведае, павінны атрымацца маленькія, нібы цацкі з “кіндэрсюрпрызаў”, але зусім жывыя жабяняткі.

І яшчэ. Заўсёды, калі хто з аднагодкаў даведваецца, што іх новы знаёмец студэнт-біёлаг (або медык), не прапускаюць спытацца: *”Што, і жаб рэжаце?..”* Я ўспамінаю нашу студэнцкую палявую практыку і першую сустрэчу з чаратовай жабай — адзіным пакуль, дзякуй богу, відам земнаводных, які трапіў у Чырвоную кнігу Беларусі, — як збегліся ўсе паглядзець на малавядомую тады “эмігрантку” з Заходняй Еўропы. Яна паціху асвойвала Беларусь, рассяляючыся на ўсход, і дайшла ўжо да лініі Барысаў-Петрыкаў. Яе фатаграфавалі, нібы кіназорку, ды зноў і зноў прымушалі рухацца: у адрозненне ад усіх нашых жабаў, чаратовая можа не толькі скакаць, але і “бегчы”, як мыш. Пасля, калі жабу паважылі і зрабілі неабходныя заалагічныя вымярэнні — адпусцілі.

Неўзабаве, калі прагрэецца вада, з зімовішчаў да вадаёмаў заспяшаюцца жабы і трытоны, каб паспець адкласці ікру ды падоўжыць свой жабіны род.

“Палескія царэўны”, — часам пачуеш у народзе. І гэта ўжо сведчыць пра духоўную традыцыю беларусаў, якая спрадвек вучыла шанаваць, а не забіваць, захапляцца, а не пыніжаць.

## “Свае” жабы не падвядуць

***Калі вы заўзяты аматар прыроды, сімпатызуеце жабам і да ўсяго дбаеце пры файны ўраджай на ўласных сотках, паспрабуйце проста на падворку зрабіць “балотца” сваімі рукамі.***

***Перш-наперш закапайце ў дол 5 ёмістасцяў, нанасіце туды балотнага разназёлу (з суседняй сажалкі ці рэчкі) і запоўніце іх вадой. У кожнае такое балотца напусціце па дзесяць жабаў. Хутчэй за ўсё яны з удзячнасцю прымуць вашую прапанову аб партнёрскіх стасунках і ахвотна прыжывуцца. У ваш агародны “санаторый” будуць збірацца самыя лепшыя жабы з ваколіцаў. Яны лёгка адолеюць шкоднікаў, якія пагражаюць чаканаму ўраджаю.***

***Будзьце ўпэўнены: “свае жабы” вас не падвядуць!***

## ГОНАР МАЮ!

*“Агульнымі намаганнямі ўдалося значна паменшыць забруджванне павэтранага басейна, асабліва ў буйнейшых прамысловых цэнтрах”.*

*“Канешне, можна спрачацца пра месца ахоўных тэрыторый... Але ў цэлым лёд крануўся. Зрухі да лепшага відаць наўзвоч”.*



***Міхаіл Русы,***
*міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя*
*“Народная газета”, інтэрв'ю Станіславу Канстанціновічу,*
*11 красавіка 1998*

*Ква-ква,*
*Міхаіл Іванавіч!*
*Пра якое там памяншэнне выкідаў Вы ква..., прабачце, гаворыце, калі столькі вашых дымілак стаіць, не працуе. Жабе ясна! Лаўлю вас, ква-ква, на няшчырым слове.*
*Не зношу гэтых вашых чалавечых“зрухаў да лепшага”.*
*Мы, жабы, любім здаровае асяроддзе — чыстае балота, сажалку, рэчку. А вы іх, куды ні ўскоч, запаскудзілі, ква-ква. Ды яшчэ крывадушнічаеце. За наш кошт рапартуеце пра значныя поспехі.*
*Во-ой, падаю з купіны...*
*Маю гонар, ква-ква!*



# БЕЛАЯ ВЕЖА

BELAYA VEZHA

## Аргумент !

### Беларусь — "зялёныя лёгкія Еўропы"

Добра захаваныя і кампактна размешчаныя прыродныя комплексы Беларусі маюць вельмі важнае экалагічнае значэнне для Ўсходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Беларускае Паазер'е, што на поўначы краіны, уваходзіць у пасак паазер'яў Балтыкі, які цягнецца па Нямеччыне, Польшчы, Літве, Беларусі, Латвіі, Расіі.

Буйныя лясныя абшары Польшчы і Беларусі ўтвараюць яшчэ адзін пасак. Гэты раз пушчаў (Крышыньскай і Белавежскай — у Польшчы; Белавежскай, Ружанскай і Налібоцкай – у Беларусі).

А беларускае Палессе ёсць часткай балотна-лясных тэрыторый, што падпяразваюць Польшчу і Украіну.

Паводле міжнароднага пагаднення аб стварэнні "зялёных лёгкіх Еўропы", падпісаным прадстаўнікамі некалькіх дзяржаў у лютым 1993 года ў Варшаве, **уся тэрыторыя Беларусі** (*вылучана намі — рэд.)* разам з усходнімі раёнамі Польшчы, Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, заходнімі раёнамі Расіі і паўночнымі раёнамі Ураіны **падлягае асаблівай ахове і патрабуе выкарыстання экалагічна бяспечных метадаў гаспадарчай дзейнасці.** *Крыніца: "Беларусь: асяроддзе для чалавека". Нацыянальная справаздача аб чалавечым развіцці. 96*

## Акцыі

### Дзеці вырашаюць праблемы дарослых?

Паводле папярэдніх звестак, Беларусь чынна прыхілілася да Тыдня зямлі, які традыцыйна прыпадае на апошнюю дэкаду красавіка. Цяжка пакуль сказаць, якія формы прыродаахоўнай патужнасці пераважалі; найбольш папулярнымі былі ачышчальна-пасадачныя клопаты на прылеглых тэрыторыях (вуліцы, прышкольныя двары, скверы і паркі, берагі рэк). У Асіповічах за некалькі тыдняў рыхтаваліся да свята птушак, пасадкі дрэў, конкурсу на лепшую прыродалюбную фатаграфію. Змястоўную праграму ажыццявілі актывісты аховы навакольнага асяроддзя Любаншчыны і Старадарожчыны...На пяць імпрэзаў эколага-чарнобыльскай тэматыкі была запрошана газета "Белавежская пушча" у Мінску. На двух – у дзіцячай бібліятэцы ў Шабанах і ў гарадскім турыстычным цэнтры – удалося папрысутнічаць. Назва адной была, бадай, больш як красамоўная: *"Дзеці вырашаюць праблемы дарослых".* І хоць гаварылі больш дарослыя, а слухалі дзеці, пытанне дзяўчынкі было слушнае і прынцыповае: *"Добра, мы пойдзем і прыбярэм захламленыя могілкі,—* сказала 17-гадовая Вікторыя, *– але хто прыбярэ на нашай зямлі горы*



*"Пасадзі дрэва жыцця!" — такі лозунг прапанавала грамадскасці газета "Белавежская пушча" да Дня зямлі два гады таму.
Фота: Аляксандр Гутоўскі ("Неруш-прэс")*

*адыходаў і змеццезвалак? Чаму гэта дапускае сама дзяржава?.."*

Дарэчы, у правядзенні красавіцкіх экалагічных акцый дзяржава, прынамсі, ў асобе двух міністэрстваў — прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і па надзвычайных сітуацыях і абароне несельніцтва ад наступстваў на ЧАЭС — чыннага ўдзелу не паказала. Усё абышлося без іх ініцыятываў, без іхняй пазіцыі, без іхняга голасу.Тымчасам дэмакратызацыя "зялёнага" руху ў Беларусі назіраецца, што засведчыў яшчэ адзін красавік. Якім будзе наступны – апошні ў гэтым тысячагоддзі? Час рыхтавацца! *Уласная інфармацыя*

## Ідэнтытэт

### Глускія лясы, магчыма, стануць яшчэ адным прытулкам белавежскіх зуброў

Папярэднія звесткі, якімі сёння валодаюць навукоўцы, даволі аптымістычныя. Аднак рашэнне аб перасяленні будзе прынятае пасля наведання мясцінаў адмысловай камісіяй. Галоўнай умовай застаецца перш-наперш лес – прыродная кармавая база і спакой, які вельмі любяць пушчанскія волаты.

Мяркуецца перавезці прыкладна 15 зуброў. Пасля нядаўна запачаткаванай гродзенскай папуляцыі чарговая – глуская – мае стаць сёмай па ліку.

Як мяркуе Пётр Козла, акадэмічны вучоны-зубразнавец, нядаўні лаўрэат прэміі Форда, у новых прыдатных лясных асяродках зубры ўзнаўляюцца лепш, чым у белавежскім статку. Вялікая шчыльнасць пушчанскай папуляцыі не паспрыяла ўмацаванню генатыпу зубра, таму і даводзіцца яе цяпер памалу рассяляць па ўсёй Беларусі. *Уласная інфармацыя.*

## Партыі

### Беларускія "зялёныя" збіраюцца аб'яднацца

Наяўнасць на Беларусі трох палітычных партый прыродаахоўнай накіраванасці істотна замінае росту іх палітычнага ўплыву. З гэтай прычыны пачалася работа па аб'яднанню Беларускай партыі зялёных і Беларускай экалагічнай партыі. На пачатак чэрвеня гэтага года запланаваны з'езд, які мае стаць аб'яднаўчым. Адным з галоўных пунктаў парадку дня будзе прыняцце новай партыйнай праграмы, якая распрацоўваецца з улікам апошніх дасягненняў інфарматыкі і кібернетыкі. Асаблівая ўвага надаецца распрацоўцы механізмаў дасягнення праграмных мэтаў. Плануецца выкарыстоўваць усе законныя шляхі ўздзеяння на грамадскую думку з мэтай актывізацыі прыродаахоўнай дзейнасці, усталявання культуры ашчадных адносін да прыроды. *Крыніца: Беларуская партыя зялёных.*

## Прэстыж

### За заслугі па ахове прыроды ганараваны прэзідэнт суседняй Літвы

Валдасу Адамкусу ўручана ўзнагарода Нацыянальнай федэрацыі прыроды ЗША "За заслугі па ахове прыроды".

Як вядома, Адамкус аддаў экалагічнаму ведамству ЗША больш за 20 гадоў працы і завяршыў кар'еру, займаючы пост рэгіянальнага адміністратара.

Заснаваная ў 1936 годзе Нацыянальная федэрацыя прыроды ЗША аб'ядноўвае звыш 4 мільёнаў сяброў і прысвойвае ўзнагароды прыватным асобам і арганізацыям за заслугі ў сферы экалагічнай асветы і аховы прыродных рэсурсаў. *Крыніца: агенцтва BNS.*

## Даты

### Жыццё па экалагічным календары пачалося 2 лютага і працягнецца да 29 снежня

Нагадаем, што **2 лютага** свет адзначаў *Дзень водна-балотных абшараў*. Затым даты размеркаваліся такім чынам.

**22 сакавіка** адзначаецца *Сусветны дзень вады*, а назаўтра, **23 сакавіка**, *Сусветны метэаралагічны дзень.*

Самы насычаны экалагічнымі датамі месяц – **красавік: 1** – *Міжнародны дзень птушак*, **5** – *Дзень геолага*, **22** –*Дзень зямлі* і **26** – *Дзень памяці пагінулых у радыяцыйных аварыях і катастрофах.*

**Чэрвень** вядомы, бадай, як найбольш традыцыйны месяц, калі ўжо не адно дзесяцігоддзе адзначаецца *Сусветны дзень аховы навакольнга асяроддзя*. Гэта дзень **5 чэрвеня. 17 чэрвеня** – пазначаны як *Сусветны дзень барацьбы з апустыньваннем і засухай.*

На чарзе – **жнівень: 6** – *Сусветны дзень дзеянняў за забарону*






*Уладзімір Захарын,* галоўны канструктар мінскага мотавелазавода:

**"Мару пра час, калі кожны беларус будзе лічыць прэстыжным ездзіць на мінскім ровары і мець за гонар рухацца ў бок прагрэсу на двухколавым транспарце."**

*Інтэрв'ю ў наступным нумары БП.*

*ядзернай зброі.*

Багаты на даты **верасень**: **16** – *Міжнародны дзень аховы азонавага слою*, **20** – *Дзень работнікаў лесу*, **29** – *Сусветны дзень мора*.

Тры даты таксама ў **кастрычніку**: **4** – *Сусветны дзень жывёл*, **14** – *Міжнародны дзень па змяншэнні небяспекі стыхійных бедстваў* і **27** – *Сусветны дзень турызму*.

Завяршае "зялёны" каляндар **29 снежня** – *Міжнародны дзень біялагічнай разнастайнасці*.

Як бачым, міжнароднае супольніцтва заклапочанае вырашэннем экалагічных праблем і кожная прынятая дата – гэта напамінак усім жыхарам планеты пра "зялёныя" каштоўнасці, пра неабходнасць канкрэтных дзеянняў дзеля іх захавання. *Крыніца: бягучая інфармацыя.*

Клімат

## 1998: чаго чакаць?

Мінулы 1997 год быў адметны ўзмацненнем стыхійных бедстваў на планеце. Засухі адзначаліся ў Паўночнай Бразіліі і паводкі – ў Паўднёвай. Змытыя слынныя пляжы Рыа-дэ-Жанейра. У пустыні Чылі зацвілі кветкі; узровень вады ў Панамскім канале знізіўся на 25 працэнтаў. Лясныя пажары лютавалі ў Інданезіі. Незвычайна пякло ў ЗША і Японіі, у Перу і Аўстраліі. Небывалыя ападкі выпалі ў Цэнтральнай Еўропе, дзе прайшлі вельмі моцныя ліўні. Вялікая паводка парушыла жыццё Нямеччыны, Польшчы, Славеніі, Венгрыі, Чэхіі. А над Беларуссю праляцеў разбуральны ўраган, які цяжка параўнаць з якім-небудзь за ўсю гісторыю стыхійных прыродных з'яў Беларусі ў цёплы час.

Паводле звестак сусветных службаў, прагнозы на 1998 год пагражаюць пагаршэннем сітуацыі. *Крыніца: замежны друк, уласная інфармацыя.*

Пытанне-анонс

## Аб'ект, які выклікае падазрэнні

Падчас сустрэчы з мінскімі школьнікамі да нас звярнулася Ганна Пушына, якая вучыцца ў Політэхнічнай гімназіі. Гэта было і ўражанне, і пытанне адначасова. "*Нядаўна наша група была ў Віцебску,* — распавяла Ганна – *Мы ведаем, што Віцебшчына адносна чыстае месца на Беларусі. Здавалася, тут і неба не такое, крыху вышэйшае. Але наша ўражанне было азмрочана чуткамі пра намеры ўладаў пабудаваць у Віцебскай вобласці цэлюлозна-папяровую фабрыку. Ці так гэта?*"

На час выхаду газеты рэдакцыя не мае канчатковага і дакладнага адказу. Аднак пытанне мы змяшчаем, нягледзячы на тое, што нумар быў цалкам звярстаны. Бадай, гэта той выпадак, калі пытанне выяўляе пазіцыю, што для нас больш важна. Падаём тэлефон установы, дзе ўсім, хто зацікавіўся, адкажуць на пытанне: 220-47-58. Уласная інфармацыя.

Арнітафауна

## Арлам цяжка лётаць

Таямнічая хвароба спасцігла белагаловага арлана (сімвал ЗША!) і вадзяную птушку лысуху ў гэтай жа краіне. У арлоў пачаў парушацца рух, іх палёт дызарыентаваны, бязладны, не мае курсу. А лысухі губляюць здольнасць плаваць і ныраць.

Хвароба закранае мозг і цэнтральную нервовую сістэму птушак – у міэлінавай абалонцы, якая ізалюе нервовыя валокны адно ад другога, паяўляюцца дзіркі.

Федэральныя і мясцовыя ўлады разам з прыватнымі арганізацыямі спрабуюць выявіць прычыны захворвання, аднак хвароба пакуль што застаецца невядомай. *Крыніца: замежны друк.*

На ўлонні

## Танец "Зайчык"

Светлае травеньскае ўлонне запрашае малога й старога трохі расслабіцца ў вольны час, паскакаць. Вельмі дарэчы традыцыйны беларускі танец *"Заяц" ("Зайчык", "Заенец").*



Танцавалі яго ўдваіх. Клалі накрыж на зямлю два паленцы (гл. здымак) і кожны на сваёй палавіне пачынаў скакаць (перабіраць нагамі) накшталт "Казачка". Той, хто зачэпліваўся нагамі за паленца, аддаваў фант (выконваў нейкае жартаўлівае жаданне, "плаціў штраф"). Падчас скокаў спявалі прыпеўку ў тэмпе "Кракавяка" ці інш. *Крыніца: "Этнаграфія Беларусі", энцыклапедыя, 1989.*



Кадры

## Уладзімір Якаўлевіч Шуцько пытаецца. Адкажам?

Старшыня Магілёўскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Шуцько досыць зняважліва паставіўся да пытання газеты "Белавежская пушча" аб тым, ці падпішацца абласное прыродаахоўнае ведамства на наша выданне і ці дапаможа ў яго распаўсюджванні сярод актыву і грамадскасці. "*А навошта мне ваша газета*" – кінуў ён у адказ і пры гэтым. як падалося, вельмі быў задаволены сабой. Патлумачыў, што экалагічнай літаратуры ў яго хапае, ёсць шмат расійскай.

Тую ж пазіцыю выказаў і ягоны калега з Гомеля Міхаіл Мачуленка. Праўда, Міхаіл Арцёмавіч дадаў: "*А хто ведае, пра што вы там пішаце...*" (Зазначым, што лісты пра планы рэдакцыі на 1998 год мы накіроўвалі ў камітэты).

Што на гэта скажаш? Такі ўзровень кадраў. Такое стаўленне да клопатаў выхавання. А магчыма, да незалежнай беларускамоўнай газеты?

Аднак да чытачоў просьба: хто захоча адказаць дзяржаўным асобам на іх "цікавыя пытанні", дасылайце свае лісты. Адкажам разам? *Уласная інфармацыя*

## Чытайце ў бліжэйшых нумарах:

- *Вяртанне балотаў як фактар нацыянальнага амаладжэння.* Фотарэпартаж–надзея.
- *Запрашэнне ў "Буслаўку".* Гісторыя аднаго заказніка.
- *"Каб глянуць на возера зблізку..."* Адам Міцкевіч і возера Свіцязь. Падарожныя занатоўкі.
- *Экацыд беларускага народа*: факты і меркаванні антраполага, доктара біялагічных навук *Аляксея Мікуліча.*
- *Жыццё раслінаў, поўнае таямніц, або Натуральны прадукт з урадлівай зямлі.* Засцярожлівае эсэ.
- Стыў Келерт. *Пра экалагічную этыку.*
- *Мірскі замак і яго ваколіцы.* Вандроўка на ровары.
- *Гонар маю!* Адказ міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя газеце "Белавежская пушча"

# НАШЫЯ СЛОВЫ! OUR WORDS!




Уладзімір Басалыга. Серыя "Мова наша родная". Літара **Д**. Папера, каляровая літаграфія. 1991.

*Нашы чытачы хто як адгукнуліся на прапанову аздобіць старонку сваім асабістым словам на літару* **"Д"**.

*Жана Пятроўская з Брэста прыгадала верш Якуба Коласа пра* **дуб** *і прапануе скарыстацца класікай.*

*Дзякуй, Жана, што шануеш спадчыну вялікага песняра, які заўжды багавейліва ставіўся да народнага слова і абараняў яго.*

*Мы рады і за вашу настаўніцу Ніну Давыдаўну, якая з любоўю і шчыраю ласкай навучае вас беларускай мове і літаратуры.*

*Добрую згадку даслала Надзея Лаўрыновіч з Мазыра.*

*Яна піша: "Да слоў, якія вы назвалі, я б далучыла* **Дзявою** *— багіню цнатлівасці. У беларусаў ёсць звычай: калі дзяўчына выходзіць замуж, святкуюць апошні дзень яе дзявоцтва і развітанне з Дзявояй — яе апякункай. А яшчэ я свой ліст пачала найцудоўнымі словамі* **"Добры дзень!"**

*Як слаўна, што ў нашым паштовым кошыку знайшліся і слоўкі да-***леч, дарога, дупло, труднік, дзяцеліна, дзядоўнік.** *А чытачка Хрысціна Фенька (гэта другі яе ліст у рэдакцыю) згадвае слова* **дзедзіч,** *якое значыць уладар памесця або маёнтка, атрыманага ў спадчыну. Хораша і сімвалічна. Усім —* **дзякуй!**

## З любасцю і пашанай

### *Са спадчыны Язэпа Лёсіка*

*Мова — гэта душа чалавека, краса і аздоба. Мова, як чалавек, павінна шанавацца, паважацца і прыбірацца з кожным разам у лепшыя, багацейшыя і зграбнейшыя ўбранні. Кожнае адметнае слова, кожны асобісты выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны з пашанай страчаць і з вялікай любасцю, як надзвычайную вартасць, далучаць у агульную скарбніцу нашай літаратурнай мовы, а не хавацца за паветалізм, не цурацца і не казаць неабачна, што ў нас гэтак не кажуць. Калі, скажам для прыкладу, у адным месцы кажуць* **яха**, *а ў другім* **рэха**, *калі адзін кажа* **маланка**, *а другі* **бліскавіца**, **марыць** *і* **летуцець** *— дык і хвала яму, абы яно было наша роднае, беларускае. Наша мова так багата, пекна і гучна, што часам, дапраўды, не ведаеш, якое слова, які выраз лепей ужыць — ажно вочы разбягаюцца. Ужо адно наша кароткае і доўгае* **у** *чаго варта, ёсць чаму пазайздросціць. А гэтыя кароткія і доўгія канчукі ў словах* **ідзе — ідзець, спявае — пяець** *— гэта цэлы скарб для нашых пісьменнікаў і паэтаў! Усё гэта разам злучанае, разумна і датэпна ўжытае, дадае багацця, красы, гучнай ёмкасці і далікатства ў літаратуру і людскую размову. Апарт гэтага, мова так узгадаваная, усімі гаворкамі вышчачаная, робіцца здатнай, сардэчнай, усім любай і лёгка зразумелай кожнаму, хто хоць крошку падвучыцца.*

**1917**

**Уладзя Ляская**

### *Багіня вясны і дзявочага хараства Ляля*

Нярэдка нашы бабулі з уцехаю гледзячы на ўнучку, любяць казаць-прыгаворваць: "А мая ж ты ляля!" Або: "Прыгожая – што ляля..." Ляля (яшчэ Лёля) паводле беларускіх міфаў, ёсць багіняй вясны і дзявочага хараства. Яе нашы продкі ўяўлялі ў выглядзе маладзенькай статнай высокай дзяўчыны, якая з першым цяплом вясны ходзіць па праталінах і абуджае Зямлю ад зімовага сну; дзе Ляля ступіць, там зеленее трава, распускаюцца кветкі.

Лялю (ляльнік) святкавалі перад Юр'ем. Дзяўчаты выбіралі са свайго гурту сяброўку, затым усе разам, у карагодзе апраналі яе ў доўгі, белы саван. Перавязвалі ёй шыю, рукі і стан усялякаю зелянінай. А на галаву клалі вянок з розных вясновых красак. Саджалі на лаву, ды не абы-якую, а дзярновую. З аднаго боку лавы ставілі гладыш з малаком, сыр, масла, яйкі, смятану і тварог. З другога – хлеб; каля ног Лялі клалі вянкі, каб хапіла іх на кожную ўдзельніцу карагоду. Пабраўшыся за рукі, танцавалі вакол Лялі, спявалі ёй песні-ўхвалы... Ляля раздавала ўсім па чарзе малако, масла, сыр і г.д., пакуль, нарэшце, нічога не заставалася на лаве. Пасля ізноў спявалі песні ды вадзілі карагоды. Ляля брала вянкі і раздавала адзін за другім кожнай сяброўцы... Гэтыя вянкі дзяўчаты затым берагілі вельмі доўга, як нешта запаветнае і святое, асабліва калі выходзілі замуж. Вянок заставаўся дарагім напамінкам.

Спраўляючы ляльнік, нашы продкі-беларусы не толькі ўслаўлялі красу вясны, што завалодвала наваколлем ды асвятляла людскія сэрцы, але ганаравалі яшчэ каханне і шлюб, узвышалі хараство беларускай жанчыны.

Яшчэ існавала павер'е, што дзіцятка будзе прыгожым, калі маладзенькая матка вынясе немаўля ў новай кашулі (лёлечцы) і пройдзецца з ім басаног па першай траве.

### *Вароты ў небе адмыкае, на белым кані прыязджае...*

Не менш паэтычны ў сузор'і беларускіх міфалагічных герояў – прыгожы і дужы юнак, які раз'язджае на белым кані ды ў белым плашчы. У ягоным імені пеняцца зеленяй словы "яр", "ярына", "ярыцца"... На галаве ў яго вянок, у руках каласы, а ногі босыя. Гэта Ярыла – бог вес-навой урадлівасці і пачуццёвага кахання.

У Юр'еў дзень Ярыла па загадзе маці адмыкае вароты неба і на белым кані прыязджае на зямлю. З ягоным з'яўленнем пачынаецца сапраўдная вясна. У гэты ж дзень упершыню выпускаецца ў поле скаціна. Яшчэ колькі дзён пасля беларусы ўшаноўвалі бога Ярылу: вадзілі карагоды з вянкамі, спявалі песні, выпівалі ды закусвалі...

Паданні малявалі Ярылу не адно як апекуна ўрадлівай вясны. Лічылася, што ён спрыяе плоднасці жанчын, нараджэнню дзяцей. У песнях так і спявалася:"Полю жыта радзіў, людзям дзеці пладзіў..."

Ярылка (ярылавіцы) ў гонар бога Ярылы святкавалі ў красавіку (на Юр'я), а таксама ў маі-чэрвені (на сёмуху, на русальны тыдзень, на купалле) . Паводле расповядаў ды апісанняў відавочцаў, святочнае кола ўключала мноства разнастайных магічна-земляробчых элементаў. Але найбольш пачуццёвую афарбоўку ярылавіцам надавалі шлюбна-эратычныя эпізоды.

*Паводле выданняў:*
*"Міфы Бацькаўшчыны", 1994.*
*"Этнаграфія Беларусі", 1989.*

## SUMMARY

***Presenting some heroes of Belarusian mythology - Lyolya, the goddess of spring and beautiful girls, and Yarylo, the god of spring fertility and sensitive love. This article describes holidays dedicated to them in rural areas.***

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання чацвёрты, 1998 №2 /11/
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96
* наклад 3000 асобнікаў, кошт дамоўны
* пры передруку спасылка на газету абавязковая

Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Марк Бэнц*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53
Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.
Газета надрукавана ў друкарні "Мілджык" (Мінск, вул.В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 29.04.98 Замова № 512

**"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Loving Newspaper. Motto: With Love To Lap. Published at the iniciative of the Information Green Agency "NERUSH-PRES"**
**Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76**